# НАРОДНЫЯ АПАВЯДАННІ

у запісах
і апрацоўцы
Ладымера
Содаля

Мінск
"Кнігазбор"
2009

УДК 821.161.3-7
ББК 84(4 Беи)
Н28

Укладальнік
Уладзімір Содаль

Н28 **Народныя апавяданні** : у запісах і апрацоўцы Ладымера Содаля / укл. У. Содаль. — Мінск : Кнігазбор, 2009. — 72 с.
ISBN 978-985-6852-93-3.

…Народныя апавяданні! Што гэта за цуд! Якія ў іх незвычайныя сюжэты! І нечаканыя! А мова! Заслухаешся! Народнымі апавяданнямі цікавіліся нашы пісьменнікі ўсіх пакаленняў. Адзін з першых пачаў іх запісваць чуйны да народнага слова Францішак Багушэвіч. А цяпер нізку народных досціпаў прапануе вам Ладымер Содаль. Напісаныя жывой народнай гаворкай, яны захоўваюць кемлівасць і дасціпнасць беларускага розуму.

**УДК 821.161.3-7**
**ББК 84(4 Беи)**

**ISBN 978-985-6852-93-3**



# АД УКЛАДАЛЬНІКА

Шмат у якіх народаў, прыкладам, на Украіне, народнаму апавяданню надаецца пільная ўвага: выдаюцца гадавікі народных апавяданняў, зборнікі, альманахі. Народныя апавяданні запісваюць, апрацоўваюць пісьменнікі, фалькларысты, чуйныя на слова журналісты, часапісцы…

Пашыраны народныя апавяданні і ў нас, на Беларусі. Шмат іх апрацавана нашымі майстрамі слова і лічацца як аўтарскія. Але якая б не была аўтарская апрацоўка, а народная іх аснова выдае сябе: і стылістыкай, і фразеалогіяй, і манерай апавядання.

На Беларусі адным з першых пачаў апрацоўваць народныя апавяданні Францішак Багушэвіч. У 1899 годзе ён падрыхтаваў да друку зборнічак «Беларускіх апавяданняў Бурачка». Але цэнзары-цемрашалы не дазволілі гэтаму зборніку пабачыць чытацкі свет. І ўсё ж колькі беларускіх народных апавяданняў, запісаных Ф. Багушэвічам, дайшло да нас.

От і я не прапускаў нагоды, чуючы такія апавяданні, занатоўваць іх.

*Ладымер Содаль*

## КЕМЛІВЫ ПАРАБАК

Жылі-былі поп і пападдзя і абодва скупыя. І быў у іх парабак. І от поп і пападдзя ўсё думалі, як гэта зрабіць, каб парабак менш еў, а больш рабіў. І надумаліся даваць парабку перад ядою кубак вады. Не падабаецца гэта парабку. Яно ж, вядома, не еўшы і піць не хочацца. А змушаюць. Доўга думаў парабак, як гэта абхітрыць папа і пападдзю. І от аднаго разу садзіцца ён за стол і сам кубак ставіць з вадою дый гукае:

— Нясіце яшчэ! Разумныя людзі кажуць, чым больш вып’ю, тым больш з’ем, жывот расцягну, кішкі размачу, то больш улезе.

А гэта чуюць поп і пападдзя. Дык поп і думае: «О, не! Досыць з вадою. Аб’есць!» — і болей не стаў даваць парабку вады перад ядою.

## ЯК ХТО ГОЛАД ПЕРАБІВАЎ, або НІШЧЫМНЫ ПАКОС

Даўней, як людзі на пакос хадзілі, посна, нішчымна елі. А пасля, як добра накосяцца, дык і скаромнае елі. От пайшоў адзін парабак з папом касіць. Ідуць, а парабак думае: «Цэлы дзень касіць нашча!» І кажа папу:

— Асялок забыўся... Не будзе чым касу вастрыць...

Вярнуўся ў двор. Убачыў пападдзю і кажа:

— Поп наказаў, каб два пірагі, дзве каўбасы дала!

Пападдзя дала, раз поп казаў.

От косяць яны, косяць. Прыманежыліся, прытаміліся. Парабак дый кажа:

— Давай дух перавядзем…

— Давай, — пагадзіўся поп.

Парабак нахіліўся ў траву. То пірага ўшчыкне, то кілбасы ўкусіць. Падсілкоўваецца. Поп пытаецца, што ён там жуе. А парабак:

— Надта ж есці хочацца. Траву жую, каб голад перабіць.

Поп таксама нахіліўся, перабівае голад травою.

Пасля зноў касіць пачалі. Навальніца ўсчалася. Зайшлі на хутар. Гаспадары таго хутара прынялі іх, трохі пакармілі. Парабак мала есць, бо ведама, як ён перад гэтым голад перабіў. А поп яшчэ хацеў есці і кажа:

— У жываце нешта шчыміць.

А парабак яму на гэта:

— Дык у печы каша стаіць.

Прынеслі кашу. Поп хапаў тую кашу то адной рукой, то другой. Рукі ў кашы. Ён да парабка:

— Глядзі, якія рукі ў мяне! Як касіць будзем?

— Нічога, трава паратуе. Аб траву вытрам, а пасля яе і пажуём! Яна ж з кашай будзе. Не прападзем!

## З мужыцкай навукі

Неяк адзін дзяцюк наняўся да фальваркоўца ў парабкі. Быў ён яшчэ вельмі малады, а трэба было якраз гной вазіць. Дык гаспадар прывёў парабка да хлява і кпліва пытаецца:

— А ці ведаеш, хлопча, як гэта рабіць?

— Ведаю, — кажа той. — Яшчэ дзед вучыў: бяры вілы, напінай усе жылы, падымай вышай носа і накладай на калёсы…

— Так, так, — пагадзіўся той, задаволены, што яму такі парабак патрапіўся, які можа не толькі працаваць, але і словам пацешыць.

## Пасля вячэры спаць кладуцца

Аднак яшчэ пра парабка. Трэба было парабку ісці сена касіць, дык ён сеў снедаць. І надта ж яму мала наліла гаспадыня. З'еў ён той сняданак і кажа:

— Каб часу не марнаваць, давай, гаспадынька, і за палудзень. Нешта я ад сняданку не пачуўся.

Дала яна яму і за палудзень. З'еў ён і гэта і зноў кажа:

— Давай і за вячэру!..

Тады што? З'еў ён і за вячэру, адкінуўся на лаву, капот накінуў дый кажа:

— У нас пасля вячэры спаць кладуцца.

Спалохалася гаспадыня:

— Што ты, Яська!.. Ідзі касі! Будзе табе яшчэ сёння і палудзень, і вячэра…

## Смяецца той, хто смяецца апошні

У Кузьмічах, зараз гэта Емяльянава, колісь маёнтак быў. Маёнтак як маёнтак. Пры маёнтку парабкі жылі. Аднаго разу паехалі яны на падводах гуртам лес вазіць. Едуць праз вёску Янавічы. Коні надумаліся напаіць.

Пакуль коні паілі, на жарты пацягнула. Быў сярод тых парабкаў адзін вельмі спакойны, мямклівы. Слова з яго не выцягнеш. Дык от з яго і наважыліся пасмяяцца. І што робяць? Сцягнулі з ягонай галавы шапку і каню пад хвост паклалі. А той хвост падняў і ў шапку наклаў. Аж заходзяцца парабкі, гэтак ім смешна. Але і той мямклівы не без гумару быў. Блізка, дзе коні паілі, зруб стаяў на чатырох камянях. Дык той мямклівы падыходзіць да таго, што з яго шапку сцягнуў, таксама з яго шапку здзірае, падымае за адзін вугал той зруб, кладзе яе на камень і зрубам прыціскае:

— Я сваю ўзяў… А цяпер ты сваю вазьмі!

Тузаў-тузаў той сваю аблавуху, на шматкі парваў… Картуз толькі ўзяў.

Смех, кепікі… З гэтым смехам і паехалі лес вазіць. Таго ж парабка, што паклаў шапку пад вугал зруба на камень, у цырк забралі. Такія людзі ў цане былі.

## Як Бог дасць, дык і ў вакно падасць

Было Купалле. Хлопцы ў лес ідуць папараць-кветку шукаць. Гукаюць аднаго:

— Хадзем з намі папараць-кветку шукаць.

А ён ім на гэта:

— Як Бог дасць, дык мне і ў вакно падасць.

Ну, пайшлі: не хочаш, дык не хочаш. Хадзілі-хадзілі — нічога не знайшлі. Ідуць назад. Аж ляжыць сабака дохлы. Дык яны за таго сабаку і ўкінулі з насмехам у вакно таму, што з імі ў лес не пайшоў: «От заўтра прачнецца і ўбачыць, што яму ў вакно Бог падаў». Аж назаўтра той прыходзіць да гэных, што яму ў вакно дохлага сабаку ўкінулі, і кажа:

— Дайце мне мерку!

А пра сабаку ні слова! Тыя даюць яму мерку, а самі думаюць: «Навошта яму тая мерка?»

А ён ім на іхнія думкі:

— Пакуль вы хадзілі, папараць-кветку шукалі, Бог у вакно мне золата ўкінуў. Я ж вам казаў: «Як Бог дасць, дык і ў вакно падасць».

Дружбакі падзівіліся з гэтага і прызналіся, што́ яны кідалі яму ў вакно. Але хто ім паверыць!

## З шляхецкім шыкам

Сабраліся двое шляхцюкоў на кірмаш. Што ж, на кірмаш дык на кірмаш. Ды от бяда — у іх толькі адна пара чобатаў на дваіх. А хочацца прыехаць на той кірмаш з шыкам, па-шляхецку. І што яны робяць? Дамаўляюцца, што адзін з іх сядзе на возе ўздоўж правай драбіны, другі ўздоўж левай. Адпаведна і боты падзеляць: адзін абуе правы бот, а другі — левы. Гэтак і зрабілі, як дамовіліся. Селі на воз, звесілі па адной назе ў абутку і едуць. А босыя ногі на возе ў сена схавалі, саломай прыкрылі. Гэтак і даехалі да таго кірмашу. А як там было — хто іх ведае?

## Муд

Даўно тое было. Яшчэ за панамі. Адзін кавалер падарыў сваёй нявесце бутэльку мёду. Бутэлечку тую, як мог, аздобіў. Нават надпіс на той бутэлечцы накрэмзаў. Напісаў: «Муд». Такі ён быў грамацей. Нявеста прыняла падарунак, але вельмі здзівілася:

— І хто ж гэта так несправідлова напісаў?

Але юнак не разгубіўся. З годнасцю выкруціўся:

— То ж гэта мой парабэчак!

А сам-то ён і быў парабэчак, але хацеў перад нявестай выдаць сябе за панка, за франта. Ды вось толькі надпіс ледзь не падвёў.

## ХАЦЕЛАСЯ ЯК ЛЕПЕЙ

Даўней не толькі кавалеры, але і панны, каб зацікавіць сваёй асобай кавалера пры знаёмстве, падвышалі свой стан, свой род больш знаным родам. От аднаго разу было ігрышча. І на тым ігрышчы сярэдняй рукі панічок запрасіў адну панну на танец. Пачалі знаёміцца. Панне спадабаўся яе кавалер: стройны, з багатага роду. Каб неяк зачапіцца за яго, сказала: яна — Шарандзішка. А таго не ведала, што Шарэнды розныя бываюць. Тыя Шарэнды, якіх ведала панна, былі людзі заможныя, годныя. А вось тыя, каторых ведаў кавалер, дык не дай божа: іх білі, і самі біліся і сварыліся, поедам з'ядалі ўсіх. Лепей бы іх зямля не насіла. Таму на панніну заяву, што яна Шарандзішка, паніч сказаў:

— Не хацеў бы, каб у нашым родзе была яшчэ адна Шарандзішка. Хопіць нам і свае, — і ад новай сваёй знаёмай абедзве рукі атрос.

## РАЗУМНЫ ПАН НЕ ЗГУБІЦЬ

Даўней, калі хто што каштоўнае знаходзіў, нёс да касцёлу, і ксёндз пытаўся з амбону: «Хто што згубіў за апошні час?» Калі хто прызнаецца, просіць назваць прыкметы. І от аднаго разу адзін пан згубіў грошы. На падвыпітку быў ці што. А гэтыя грошы знайшоў адзін мужык. Знайшоў і, як тады вялося, да касцёлу прынёс, ксяндзу аддаў. Ксёндз з амбону і пытаецца:

— Хто апошнім часам згубіў пянёнзы?

Пытаецца раз. Другі. Трэці. Пан маўчыць. Сорамна прызнацца, што ён такі разявака. Але мусіў прызнацца:

— Мае!

Шкада яму стала тых сваіх грошай. А згубіў ён, мусіць, такі ладнага. Дык ён да селяніна, каторы знайшоў яго-ныя грошы:

— На ўвесь свет мяне зняславіў! На табе пятнаццаць грошаў нагароды і маўчы, нікому больш не кажы, што я згубіў грошы.

А селянін яму на гэта:

— Разумны пан не згубіць…

## Спрыяў сваё красці

Даўней з усім было скупа. І зямлі было мала, і лесу не ставала. Вакол усё было панскае, асадніцкае. За ўсё трэба было плаціць ці адрабляць. Сходзіш у лес, у ягады ці грыбы — адрабі. То людзі стараліся пры нагодзе што-кольвек з панскага лесу скрасці, увараваць: дравіну якую ці бярвенца. А паны колісь скрозь адзін пры адным сядзелі. Кожны за сваё трымцеў. Калі што якое, дык моцна каралі. Адзін толькі Аўлас (Уласаў, колішні рэдактар «Нашай нівы»), калі надаралася, што нехта краў яго лес і трапляў яму на вока, казаў: «Вязі, братачка, але каб толькі жонка мая не дачулася, не дазналася, бо калі дазнаецца, будзе і табе, і мне. А ты, калі будзе якая нагода, гэтыя дровы прыйдзі да мяне і адрабі… Ну, едзь сабе з Богам ды старайся больш не самаволіць. Калі што трэба, лепей прыйдзі і папрасі. І мы неяк памяркуемся». І адпускаў бедака дахаты. Такі быў наш Аўлас, што сядзеў на Мігаўцы. Памагаў сваё красці.

## САМ У СЯБЕ КУПІЎ…

Пад самымі Радашкавічамі жыў і яшчэ адзін абшарнік — Андрэй Снітка. Быў ён такі ж, як і яго швагра Уласаў. Нехта неяк аднаго разу шапнуў яму, што хтосьці з яго сялянаў крадзе лес на дровы. Падпільнаваў ён таго злодзея і пытаецца, што ён з гэтымі дровамі збіраецца рабіць, куды вязе?

— А прадам, — кажа.

— А што ты за гэтыя грошы мусіш купіць?

— Няма газы, няма солі.

— Добра, — кажа Снітка. — Вязі гэтыя дровы ў мой двор!

Што рабіць? Дровы не свае, крадзеныя. Завёз ён тыя дровы ў двор, скінуў з воза, а Снітка дастае з гаманца колькі рублёў і кажа:

— Купі сабе солі, газы. А дровы спатрэбяцца ў двары.

На тым і рассталіся. Тутэйшы люд доўга пра гэта гаварыў. Гэта ж трэба: сам у сябе купіў!

## КАХАНЕНЬКІ-РОДНЕНЬКІ

Хто ж на Беларусі не ведае гэтага славутага гулліва-пацешнага выслоўя з Купалавай «Паўлінкі»?! Але адно ведаць, а другое — пачуць яго ў жывой гамонцы, у жывой згадцы. І не абы-дзе, а ў суседніх з Вязынкай Сяледчыцах.

Юзэфа Сай, дачка слыннай у вязынскай акрузе бабкі-павітухі, якой калісь давялося забаўляць маленькага Ясіка Луцэвіча, распавяла.

…Ейны тата купляў калісь у гурнаўскага пана зямлю. Але не хапала грошай, каб цалкам разлічыцца з панам. Ды пан выдаўся ўступлівы, памяркоўны. Пагадзіўся пачакаць рэшту:

— Як разжывецеся — вернеш. А пакуль сей, абрабляй зямельку, гаспадар!

Тады што? Пан прадаў зямлю з грываю лесу. Дык тата ўзяў ды прадаў тую грыву лесу, а за выручаныя грошы сплаціў усе свае даўгі. Гэта вельмі ўразіла Раманоўскага:

— Як гэта ты да такога дадумаўся? Гэта ж ты, каханенькі-родненькі, маім салам ды мне ж па губах і памазаў!

## ВЯРШЫЛА

Быў у нас адзін такі. Звалі яго Вяршыла. Пра яго казалі: асілак. Але які ён асілак?.. Ні кала, ні двара. Хадзіў ён тут да адной, але бацьку яе гэта не дужа падабалася. Надта бедны. Кажа:

— Хату збудуй, тады дачку аддам.

Што рабіць хлопцу? І хаты няма, і зямлі няма, а жаніцца надумаўся. Хадзіў, хадзіў. Тады цешчы трохі шкода стала хлапца, дый дачку пара была аддаваць, каб не пераспела. Гукае хлопца і кажа:

— Вось табе балотца. Стаў хатку. З гектар дамо. А лес бяры панскі.

Пачаў хлопец будавацца. А каб будавацца, шчэ ж трэба каня. А каня няма. Дык ён што? Пойдзе ў панскі лес, спусціць дрэва, ачысціць, на плячо ўскіне — і ў сцяну…

Падпільнаваў гэта яго панскі ляснік, далажыў пану. Пан не верыць.

— Запрагай, — кажа, — коні, паедзем.

Прыехалі ў лес, стаіліся. Той дзяцюк зрэзаў палена, на плячо ўзваліў, нясе. Ногі ўгінаюцца, крэкча, але нясе. Пан нічога не гаворыць, толькі націкам за ім паціху едзе.

Скінуў дзяцюк бервяно, пот выцер, хацеў ісці па другое, а тут як тут перад ім пан. Вусы пагладжвае задаволена і кажа:

— Так, хлопе, маеш кавалак здрове, то шануй!

Не сварыўся, не крычэў. Толькі даў яму лесу дабудавацца і да сябе ў двор узяў. Яму такія людзі якраз патрэбны былі.

## Дзявочкаў камень

У Мінску, ва Уруччы, паблізу новага акадэмгарадка, ужо колькі гадоў музей валуноў. Я жыву паблізу тых мясцінаў, часта хаджу на гэтае незвычайнае лежбішча з валуноў. Гэтыя мае вандроўкі, гэтыя мае экскурсіі на пляцоўку музея неўпрыкмет абудзілі і ў мяне цікавасць да загадкавых прышэльцаў з Скандынаўскіх гор. З тае пары, дзе б я ні быў, як згледжу дзе які камень, не прапушчу нагоды, каб агледзець яго, абмацаць, распытацца пра яго. Пра адзін з такіх камянёў я і хачу распавесці. Ляжыць ён на беразе невялікай сажалкі між пакручастай бярозы і нахіленай таполі ў вёсцы Буды, што паблізу Купалавых Акопаў. Гэта на Лагойшчыне. Ляжыць расшчэплены на дзве роўныя часткі, нібы вялізная разгорнутая кніга. Я пацікавіўся, хто ж яго так распаласаваў? І пачуў вось якую гісторыю.

…У пачатку мінулага стагоддзя жыў у гэтых мясцінах вельмі спрактыкаваны каменацёс, ці інакш камацёс, Дзявочка. Родам ён быў з Вялікіх Бясядаў. Умеў з каменем абыходзіцца, умеў абрабіць яго. І вось аднаго разу сабраліся ўсе будскія мужыкі — свята нейкае было… Сабраліся, гамоняць пра тое ды сёе… Тут жа з імі і Дзявочка. Адзін і кажа да яго:

— Мы ведаем, які ты майстар, Дзявочка! А скажы, ці змог бы ты расшчапіць гэты будскі валун?

А той валун, мусім сказаць, як гара, як капа! Дзявочка агледзеў камень і сказаў:

— Змагу! А што будзе?

Паабяцалі яму будскія мужыкі тры гарцы гарэлкі.

Пабіліся аб заклад, рукі перабілі, і славуты камацёс па пэўным часе ўзяўся за працу. Некалькі дзён пракручваў дзюрачкі ў камені. Пракруціў ён іх не меней як дваццаць пяць. Тады давай у гэтыя дзюрачкі сталёвыя шпунты ды прэнты кувалдай заганяць. Балазе, побач з валуном кузня была. Зломіцца ці сагнецца каторы шпунт, дык ён хуценька ў кузню. Біў ён гэты камень, біў, увесь змакрэў. А людзей сабралася — усім жа цікава, хто каго зможа: ці камацёс камень, ці камень камацёса. І вось махнуў Дзявочка кувалдай яшчэ раз — і камень той распалавініўся, расшчапіўся, разваліўся якраз так, як і хацеў Дзявочка. Толькі рэха пайшло. Зараз так і ляжыць распалавінены і апавядае пра сілу тутэйшых людзей, іх кемнасць.

«А быў жа ж гэты Дзявочка не такі ўжо, на вока, асілак. Невысокенькі, караткаваценькі, разы ў тры ніжэй за сам гэты камень. А вось справіўся», — дзівуюцца і сёння людзі з Дзявочкавых сілы і кемнасці.

## БАЗАРОЎСКІ КАМЕНЬ

Знаны ўсімі кушлянскі дзядзька Міхал распавядаў…

Калісь ля іхніх Базароў, ля ганчарні, ляжаў аграмадны валун. Камень той быў надта ж вялікі. На тым камені пастушкі кадрылі адбівалі. Пра гэты валун, пасучы поблізу яго коні, яшчэ хлапчуком дзядзька Міхал пачуў: у гэтых мясцінах гуртаваліся паўстанцы Каліноўскага. Дык от, гэныя паўстанцы загадалі тутэйшаму пану Мярковічу пакласці пад камень васемсот рублёў. А калі не пакладзе, то яго маёнтак пусцяць агнём. І дзе дзеўся — паклаў.

Пасля той камень у Солы перавезлі, як новы сольскі касцёл будавалі. А як геравозілі? Узялі васьмёрку вайсковых суладных коней. Вясковыя коні былі не такія суладныя. Пасля яшчэ чатырох прыпраглі. От так на дванаццацёх конях той камень і перавезлі. Пасля з таго каменя майстры зрабілі касцельны стол — «велькі алтаж» (вялікі алтар). На яго святары пад час свае службы клалі святыя кнігі ды іншыя касцельныя рэчы. Ножкі таму сталу таксама з каменя прырабілі.

От так паўстанцкаму тайніку лёсіла стацца сольскай святыняй.

## БАРДЖЭЙ БУДЗЕ

Сабраліся дзед і баба ў госці. Ужо і воз нагатавалі. Раптам баба і кажа:

— Дзед, пакуль тыя госці, давай паабедаем. Усё роўна боршч у печы стыне.

— А то і праўда, — пагадзіўся дзед. — Можна і паабедаць.

Селі за стол. Баба дастала боршч з печы. У адну міску мяса выклала, у другую баршчу наліла.

— Ты, — кажа дзеду, — боршч еш, а я мяса. Так барджэй будзе.

Паглядзеў дзед на бабу моўчкі, нічога не сказаў. Паабедалі і да фурманкі падаліся. Баба пачала на воз усаджвацца, а дзед ля каня капошыцца: то за супонь возьмецца, то спражку на падбрушніку паправіць. Не агледзелася баба, як дзед каня выпраг і верхам на яго скочыў.

— Ты куды? — адно і паспела спытацца.

— Як куды? — усміхнуўся дзед. — А ў госці… Ты на возе, а я на кані… Так барджэй будзе.

## ШТО ЗА БЯДА, КАЛІ П'ЕЦЦА ВАДА

Баба дзеда карміла адным гарохам. А сама цішком пеўня зварыць, наесца дый прыгаворвае:

— Што за бяда, калі п'еццa вада.

І гэтак кожнага разу: дзеду крупнік які, а сабе пеўня.

Угледзеў раз дзед бабіны штучкі, падцэліў, калі яе не было дома, з'еў паўпеўня дый на печ падаўся.

Вярнулася баба, даела моўчкі таго пеўня, выцерла губы ды зноў кажа:

— Ах, што за бяда, калі п'ецца вада?!

А дзед з печы:

— Ды што там бяда… Вось я з'еў толькі паўбяды — і то напіўся вады.

## ЛАПЦІ НА ПАТЭЛЬНІ

### (з апавядання Надзі Гаеўскай)

У нас сваіх жабракоў не было. Находзілі з суседніх вёсак. Надаралася, і начавалі. От аднаго разу адзін такі жабрак заначаваў у аднаго гаспадара. Як заначаваў, дык і заначаваў: ужо раніца, уставаць пара, а ён усё спіць і спіць, як пшаніцу прадаў. Гаспадарам трэба ісці малаціць, а ён усё спіць ды спіць. Кінулі гаспадары яго аднаго ў хаце, а самі пайшлі на ток.

А жабрак выспаўся, колькі яму хацелася, па хаце прайшоўся. Есці захацелася. Ён і давай па гаршках ды варэйках лазіць. Зазірнуў у печ, аж там на патэльні гусак смажаны. Жабрак за таго гусака і ў торбу сваю. А замест гусака на патэльню лапці свае шыбнуў.

Шыбнуў і з хаты прэч. Ідзе па вёсцы, пасміхаючыся, прыгаворвае:

— Ой, божа, мае людцы! Як свет перамяніўся. Быў Гусакоўскі. Жыў у Панадворцы, пераехаў у Скавародцы. А цяпер з Скавародцаў перабраўся ў Тарбоўшчыну. Ці ж не дзіва, людцы, гэта?

З гэтымі словамі ён і выйшаў з вёскі. А там шукай у полі ветру. Вярнуліся гаспадары з малацьбы, аж у хаце ні жабрака, ні гусака. Толькі лапці на патэльні.

*Карпілаўка, 1999 г.*

## ХІТРЫ ХОД

У адной бабулькі і сабакі не брахалі, а новенькія бу́рачкі з хаты прапалі. Пачала яна варажыць, хто б гэта мог тыя сабе яе бу́рачкі прыгрэці, пачала згадваць, хто да яе прыходзіў… І згадала — сусед. Але як яму пра гэта сказаць? Не злавіла — не злодзей. І што ж яна робіць? Давай ля суседавага двара снег раскідваць. Сусед і пытаецца:

— Што гэта ты, суседачка, робіш?

— Снег раскідваю, бу́рачкі ў мяне з хаты прапалі…

— Ідзі, — кажа сусед, — у хату… Знойдуцца твае бу́рачкі…

І праўда, праз нейкі час выйшла яна на ганак, аж там яе бу́рачкі жывыя і здаровыя стаяць.

## НЕ МЕЛА БАБА КЛОПАТУ — КУПІЛА ПАРАСЯ

Хто з нас не ведае гэтай помаўкі! Дык жа ж не з неба яна звалілася!..

…Мама распавядала:

— Купілі мы з татам парася. Да вайны яшчэ тое было. Парася як парася. А пасля з ім неўма што сталася. Ста-

ла аблезлае, негілюзнае. Шчаціна павылазіла, зыдлам нейкім стала. Есці не есць. Мы яму і тое, мы яму і другое. Юшку з бульбы сабе варым — і яму лінём. Сала пражым — і яму туку капнем. Трошкі хлебане: хлёб-хлёб — і ўсё. Яйка дамо — з'есць. Цэлую зіму з ім правазіліся. У хаце празімаваў. За зіму не прыбыў, а адбыў… Куплялі мо з напаўпуда, а стаўся як кацянё якое. Адно цэлы дзень вішчыць. Даўся ён мне. Раззлавалася я на яго. Злосць мяне ўзяла, дык я яго за плот выкінула. А ён узяў і на ганак прыпоўз пад дзверы. Вішчыць, просіцца ў хату. Выйшла я да яго. Ногі аблезлыя, аж пасінелыя. Вядома, зіма, снег, маразы.

А тут неяк на вясну павярнула. Мо б я ў хату яго больш не пусціла. Дык ён пачаў у гародзе рыцца. Што ён там шукаў: ці каменьчыкі, ці карэньчыкі якія. Рыўся бесперастанку. І есці пачаў. Што ні дам — усё падбярэ, усё выесць, аж вушы складзе. Акрыяў трохі. Як пачуе, што есці нясу, подбегам бяжыць. А пасля ўжо і ўставаць было яму цяжка, так раз'еўся. Але і сала з яго было! Не паверыце — кроім брусамі на ўвесь нож. Так што праўдзіва: «Не мела баба клопату — купіла парася». Так і я.

## БОБІНА

Не ведаю, праўда гэта ці не, а мне так распавядалі.

Прыехала матка да дачкі, а бульбу капалі. Дык матка будзе казаць: «Дачушка, і я пайду пакапаю». Пайшлі, капаюць. А па бульбе ды боб рос. Дык маці бобіну ўкінула ў рот. Укінула і качае тую бобіну, цяпкае яе і цяпкае. Зубоў жа няма! А боб той цвёрды, як камень. Дачка зырк на матку вокам дый кажа:

— Ты хоць дзецям трохі бобу кінь!..

Мо хацела тое смехам сказаць, а выйшла неяк нядобра. Матуля расплакалася. Слёзы з вачэй бобам пасыпаліся, такая яе гаркота агарнула, дый дадому паехала. Ні ўзяла ні есці, ні піць…

От як бывае! Голасам, словам можна агарчыць крэпка чалавека. І раны ад горкіх слоў не гояцца, не зажываюць. Могуць прыглушыцца, забыцца, а пры нагодзе і зноў адкрыцца. Так што, калі гаворыце, думайце, як сказаць, што сказаць, як цябе пачуюць, як тваё слова адгукнецца…

Ад кулі абараніцца неяк можна, ухінуцца, а ад злога слова абароны покуль няма.

## Абскубаны пявун

Вы, мусіць, усе чулі казачку пра казу-дзеразу, за тры грошы купленую, на паўбока аблупленую. Але не толькі каза бывае на паўбока аблупленая. Аднаго разу надарылася быць на паўбока абскубанаму і кураводупяюну. А было гэта так.

Адна бабулька гнала самагонку. Гнала-гнала, і засталося трохі, мо з коўшык які тае брагі. Дык што ёй з той брагай рабіць: ні два, ні паўтара? Дык яна тую брагу выплеснула пад плот. Аж поблізу бегаў яе кураводу. Дык ён надзюбаўся тае брагі, балазе яна была ўчынена на пшане. Накляваўся ён таго бражнага пшана і неўпрыкмет захмялеў. Ды так, што з ног заваліўся на бок. Гаспадынька падумала, што яе пявун Богу душу аддаў: «Дай, — думае, — я хоць абскубу яго. Хоць пер'іна якая будзе». І пачала скубці таго свайго певуна. Скубнула раз, другі, ледзь не палову ўжо абскубла. І раптам яе пявун як падхопіцца, як закукарэкае:

— Ку-ка-рэ-ку!

Дык бабулька ледзь не абамлела.

## ГАЛАВІШЧА З РАЖЫШЧАМІ

Прыехаў адзін чалавек з горада ў вёску на госці. Гасцюе. А якраз карову выганялі ў поле. Дык тая карова, чаго яе нячысцікі забралі, панеслася з хлява наўскачкі Бог ведае куды. Чалавеку крычаць:

— Перайм яе, не пускай абы-куды ляцець!

А той чалавек чамусь сам даў цягу ў другі бок ад каровы. Пасля ў яго пытаюцца, чаму ён так зрабіў.

— А што! — кажа той. — Як зірнула яна на мяне… А ў яе вочы — во! А галавішча якая! А што ў той галаве з ражышчамі — ніхто не ведае. То я і цягу ад яе даў…

## ДЫЯЛОГ З ВАЎКАЎНІ

Вяртаўся мужык з габрэем з лесу. У грыбы яны хадзілі ці яшчэ чаго. От ідуць яны гэтак па вузкай лясной сцяжынцы, пра тое-сёе гамоняць, і раптам тая сцяжынка пад іх нагамі абрываецца і абодва шусь галовамі ўніз. А калі агледзеліся — бачаць, у яму якуюсь шухнулі, уваліліся. А ў той яме воўк сядзіць, зубамі шчоўкае, вочкамі, як свечкамі, свеціць. Дык не быў бы габрэй габрэем. Ён гэтак ветліва кажа ваўку:

— Таварыш воўк! Ты, мусіць, ведаеш, каго з нас першым есці будзеш, — і звёў вока на мужыка, нібы падказаў, з каго яму пачынаць сваю трапезу. А тым часам, спадзяваўся, сітуацыя ў ваўкаўні можа змяніцца неяк на яго карысць.

## ВАКОЛ КУЗНІ

Нeяк пачуў: «Даўней шлюб пачынаўся з кузні». Не ведаю, як хто, а я аж падскочыў: от табе маеш! Падскочыў не без дай прычыны. Прыгадалася…

…Першыя пасляваенныя гады. З колішняга блакаднага Ленінграда мой родны дзядзька прывёз сабе маладую жоначку. Разгаварыліся яны з маёй мамай, дык тая і пытаецца:

— А вы, Саня, вянчаліся, як замуж ішлі?

— Але! — кажа мама. — Вянчаліся…

— А дзе?

— А вокал кузні…

Тады я гэта прыняў за жарт. За дзіўны жарт прыняла маміны словы і маладуха з-пад колішняга Ленінграда. І от чую: «Не раз надаралася: маладая пара, перш чым ісці ў царкву ці касцёл, ішла ў кузню, каб там заказаць сабе шлюбныя пярсцёнкі…»

Як бачым, дыму без агню не бывае.

## СКОКІ НА ПУЗЕ

Наехалі нeяк раз у наша мястэчка цыганы і давай людзям дурыць галаву, хто як мог і чым мог. Цыганкі чапіліся з гаданнем, цыганы коней сваіх нахвальвалі. Нават цыганяты спрабавалі зарабіць хоць якую капейку. Але як? На моўнай аманіміі. От адно цыганя, сабраўшы вакол сябе такіх, як сам, падшыванцаў, прапанавала:

— А хочаце, я вам на пузе паскачу?..

Гэта, вядома, усіх заваражыла. Як гэта ён на пузе скакаць будзе? Азірнуліся. Вакол гразь, вада. А была акурат восень. Няўжо расшпіліць світку, падыме кашульку і будзе голым жыватом круціцца на зямлі? А цыганятка і

напраўду ўжо расшпіліла світку, за кашульку ўзялося… Мы раты паразяўлялі: ну і цыганё дзеля капейкі на ўсё гатова. Пачалі чакаць, калі пачнецца тое дзіва, калі цыганя голым жыватом на мокрую, з вадой, восеньскую зямлю ляжа. А ён спрытненька выхапіў з рукава невялічкую пужку, прыставіў яе да голага жывата, налёгся на яе, разы з два крутануўся вокал і пераможна сказаў:

— Ну што, бачылі? Плаціце! Я абяцаў вам на пузе паскакаць. Вось і паскакаў.

## Адам і Ева

Хто такія Адам і Ева?

Вядома хто — першыя Богавы людзі. Жылі яны, як ім і належыць, у раі. Але аднаго разу саграшылі. Зазірнулі ў куфры, якія Бог забараніў ім адчыняць. А ў тых куфрах, як вядома, былі розныя твары: вужы, гадзюкі, жабы, розныя іншыя паўзучыя гады. З тае пары яны і распаўзліся па свеце. І Бог за непаслушэнства пакараў Адама і Еву. З свайго непаслушэнства, а можа, і цікаўнасці, сталі грэшныя.

Тым не менш, людзі працягвалі сваіх немаўлят называць і хрысціць Божымі імёнамі. І гэта ўсё нічога. Большасць з іх стараліся быць годнымі Божымі людзьмі.

У адной сям'і нарадзілася двойня: хлопчык і дзяўчынка. І іхнія тата і мама ахрысцілі іх гэтак, як звалі першых людзей, — Адам і Ева. І надта ж яны ўдаліся, як падраслі, гарэзлівыя. З гэтай нагоды ў нас пра нашых Адама і Еву склалі байку:

— Адам і Ева ўпалі з дрэва. Адам упаў на Еву. А на дрэве сядзелі вераб'і. Яны іх ледзь не задзяўблі, парушылі ім мазгі. От таму яны такія ўраднюшчыя былі.

# ЛАХУДРА

Гэтую гісторыю я чуў не адзін раз. Першы раз — як толькі зазнаў Ніну Лабатую, замужам Бандэрайціс. Расла яна і гадавалася ў суседняй з Вячай Пільніцы. З прыроды гаваркая, добрая апавядальніца.

— Я вам распавяду пра Лахудру, — кажа яна, — як мне мама распавядала. Раскажу яе словамі. Маю маму звалі Вера. Яна з 1905 году, з Жураўскіх. Дык от, жыў у нашай Пільніцы адзін чалавек. Памерла яго жонка. Стаўся ён удаўцом. У яго двое дзяцей. А ведама, як удаўцу ды яшчэ з двума дзецьмі жывецца. Тады адна кабета дый кажа яму: «Можа б, ты ў такую і такую вёску пад'ехаў ці схадзіў? Там жыве адна маладзічка. Мо б яна табе дапамагла дзяцей на ногі паставіць…» Паслухаў ён тую кабету. Устаў рана. Запрог валоў і паехаў у тую вёску. Падказалі яму і тую хату, дзе жыла намоўленая маладзічка. Заходзіць у хату, вітаецца з бацькамі і кажа: «Можа б вы сваю дачку за мяне замуж аддалі?» А бацькі: «Яна нічога не ўмее, нічога не можа. Яна і сябе дагледзець не можа. Паглядзіце, якая яна лахудра. Толькі на печы ляжыць. Але пойдзем у яе спытаемся». Прыйшлі і кажуць: «От чалавек прыехаў і пытаецца, ці пойдзеш ты за яго замуж. Толькі ў яго двое дзяцей…» — «Пайду», — кажа тая. «Ну, то добра, — кажуць бацькі. — Будзем цябе рыхтаваць да вяселля». Паехаў той удавец. Бацькі неяк сцягнулі з печы сваю Лахудру (яны інакш яе і не называлі) і пачалі яе часаць. А часалі даўней на засланку. Вычасалі яе, вошай тых патаўклі. Галоўку мылам вымылі, прычасалі. Дагаварыліся, калі вяселле будзе. Вянок ёй на галоўку, сукенку! Згулялі тое вяселле, і зяць забраў жоначку ў сваю вёску. Мінула колькі часу, бацькам карціць паглядзець, як іхняя Лахудра жыве, як яна там гаспадарыць. Каб хаця назад не прывёз. Узялі кварту гарэлкі і

паехалі. А дачку звалі Настачка, Настулька. Прыехалі. Маці сваім вачам не верыць. Іхняя дачка, якую яны гэтак ганілі, інакш, як Лахудра, не называлі, чысценькая, стройненькая, ва ўсім беленькім. І ў хатцы парадачак. Дзівіцца маці: «А мая ты Настулечка, адкуль жа ў цябе ўсё гэта?» А тая й кажа: «А мая ж ты мамачка, я хоць на копцы, на печы сядзела, а ўсё глядзела, як ты і што робіш, і запамінала. У цябе, ад цябе ўсяму навучылася. Ды мне і чалавек спагадны трапіўся. Ва ўсім мне дапамагае. І ніколі мяне Лахудрай не называе. Я яму ва ўсім стараюся гадзíць. І абед у поле занясу, і дзетак прыгледжу. Усё ў нас як у людзей!»

## ПРОБКІ П'ЮЦЬ

Садзім бульбу. Прыехаў памагаць садзіць і сын. Але як ён садзіў? Укіне колькі каліў у баразну і ў хату чагось бегма бяжыць. Так-сяк пасадзілі тую бульбу і абедаць сядаем. Бабулька дастае з сваіх сховаў бутэлечку сівухі. А як жа! Што за абед без чаркі! Аж там ужо палова адпіта. Яна здзіўлена ў ладкі пляскае:

— А мне, бедненькай: што ж гэта з маёй гарэлкай робіцца? Была ж поўная, добра помню, а зараз усяго толькі на дне. Ці то яе пробкі павысмоктвалі (а былі яны з паперы скручаныя), ці то дзе ў бутэльках трэшчына якая?

Наіўная бабулька, хоць і здагадвалася, куды і чаго бегаў сын, садзячы бульбу.

## ГРАМНІЦА ПАМАГЛА

Была ў нашай вёсцы сажалка. Не глыбокая, але і не мелкая. Аднаго разу прыехаў да нас з горада спартсмен-разраднік. «От пакажу я вам, як я плаваць умею», —

надумаўся ён і бух у ваду. Праходзіць хвіліна, другая, а яго няма і няма.

Прыехалі вадалазы. Таксама туды-сюды. Няма хлопца. Шукалі-шукалі — не знайшлі.

Тады што? Два дні шукалі На трэці дзень пагукалі дзеда Аўдзея: «Не можам знайсці!» І што робіць дзед Аўдзей? Бярэ бохан хлеба, ставіць у той бохан свечку і пускае па вадзе. Паплыў бохан. Плыве свечачка-грамніца, гарыць, полымечка палыхае-трапеча. Падплывае да другога берага. Даплывае да бацвіння — у нас яго яшчэ называюць жабурэнне — і спыняецца.

— Шукайце тут! — кажа дзед Аўсей.

І праўда, нырнулі вадалазы, а разраднік той у тым жабацінні. Прыліп да травы, ублытаўся ў водарасці і не выплыў.

## КРЫЖ ЗА ВЁСКАЙ

Гэта не байка і не легенда, а чыстая праўда. Ксяндзы вельмі сурова каралі сваіх парафіянаў за розныя грахі ды правінкі. Яны мелі такое права. Паложыць каторага, хто цяжка саграшыў, пасярод касцёла крыжам ніцма, каб усе бачылі, а людзі ходзяць ля яго, глядзяць. Небарака ляжыць праз усю імшу, раскайваецца за свой цяжкі грэх.

Было ў нас і такое. Адна каталічка, Брусакавічанка, выйшла замуж за чалавека другой веры, за бурлака. А бурлакамі ў нас называлі старавераў. Дык ксёндз гэтак абурыўся на гэную Брусакавічанку, што загадаў у канцы Кушлянаў, дзе яна нарадзілася, паставіць крыж. Гэта значыла, што Брусакавічанкі ўжо няма, што яна для касцёлу ўжо змерла.

## БРЫЗГУЛЬ

Гэта цяпер зашпільваюцца хто на што, хто чым. Хто на кнопкі, хто на гузікі, хто на замкі-маланкі. А от даўней былі ў модзе брызгулі з дубу — такія драўляныя шліфаваныя палачкі. Мо бачылі калі? На гэтыя брызгулі шмат хто зашпільваўся. Шляхта таксама не грэбавала імі. Ушывалі іх і ў штаны. Надта ж яны трывалыя былі.

От адзін у нас маладых гракоў любіў спажываць. Надта яны смачныя. Дык па дрэвах лазіў па тых гракоў.

Неяк аднаго разу не вельмі ўдала злазіў. Пачаў падаць з дрэва, але не сарваўся. Зачапіўся за брызгуль, аж перакруціўся, але не сарваўся, такі ён быў моцны, той брызгуль, так быў моцна ўшыты. Каб гузік быў, то ці б ён утрымаўся?! А брызгуль утрымаў, паратаваў чалавеку жыццё.

## КУВЕКІ

На Бераставіччыне ёсць вёска Кувекі. У гэтай вёсцы надта ж не любяць слова «тпру». Як скажаш «тпру» — бяды не абярэшся. Шчэ калі на кані, пры кані, дык нічога, неяк стрываюць. А калі ж так, без дай прычыны вырвецца гэтае «тпру», крыўдзе не будзе мяжы.

Неяк раз адзін чалавек засеў з возам у тых Кувеках. Просіць памагчы, выпіхнуць. Пхаюць той воз. А конь як рване — і ў селяніна нязмушана вырвалася нялюбае кувекам «тпру». Дык яны ў крыўду:

— Ты што? Мы табе памагаем, а ты нас зневажаеш!

Шчэ адно дзівацтва кувекаў. Як сустрэнеш кувека ды спытаешся, адкуль, дык не скажа: «З Кувекаў», а — «З-пад Вярэек»…

Не любілі ў Кувеках і слова «лані», казалі: «Гэтыя лані абарвалі хвост у свінні». А што гэта за «лані»?

## ДЗЕД БАЗАН

Розны люд у нас жыў. Але гэтаму не было раўні. Усё ведаў, усё прадбачыў. Пра канец свету прарочыў. Казаў: «Прыйдзе пара — і ўсё на свеце будзе аблытана дратамі, правадамі. Правады будуць так густа наснаваныя, як павуцінне. На іх можна будзе нават спаць. Настане і такая пара, калі дачка з бацькам будуць жыць, брат з сястрою, цешча з зяцем… А пасля ўсе вырадзяцца. І застануцца на свеце толькі двое. Ён і яна. Будуць яны адно ад аднаго далёка-далёка, мо за тысячы кіламетраў. І будуць яны гукаць адно аднаго, і будуць чуць галасы адно аднаго. Але і толькі! А дзе хто каторы — ні адзін з іх не ведае. Будуць бегчы насустрач адно да аднаго. І не адзін год. Галасы чуваць, а нідзе нікога і нічога. Адна пустыня, адна пустэча. Доўга яны будуць набліжацца адно да аднаго. Як стрэнуцца, дык з радасці, што сустрэліся, будуць грызці адно аднаго, кусаць, пакуль будзе змога, пакуль не з'ядуць адно аднаго… Такія іхнія будуць пацалункі. Вось тады ўжо і настане канец свету. Запануе цемра…»

Дзед Базан быў барадаты, каржкаваты, ляпіў печы. Але скуль ён усё гэта ведаў? Быў непісьменны, а вось мог баіць такія жудасныя гісторыі. Я іх таксама чуў, але ўжо тады, як дзеда Базана не было. Але жылі ягоныя прарочыя сказы.

## МІНА

Жыў-быў у нашай вёсачцы і яшчэ адзін чалавек. Звалі яго Міна. Надта быў падкі да гарэлкі. Піў — не прасыхаў. Даставалася яму за гэта ад жонкі. Кожны дзень яна яго цвічыла. Не ведаў ён, куды яму ад яе дакораў дзецца. Здаецца, у тую хвілю каб мог, дык скрозь зямлю праваліўся б, абы не слухаць яе заедзі, гэтага яе пілікання.

Бывала, пойдзе з гора за вёску, на шлях. А там абапал дарогі бярозы раслі. Шчэ з кацярынаўскай пары. То бярозы былі! Адна ў адну: высокія, раскідзістыя, стройныя. Падыдзе Міна да каторай і пачне з ёй гаварыць:

— Бярозы, бярозы, скажыце, ці будзе калі Міна цвярозы?

Скажа так, пастаіць хвілінку-другую ў роздуме. Чакае-чакае ад бярозаў адказу, але тыя як маўчалі, так і маўчаць, толькі ціха лісцем шапочуць. Тады Міна з расчараваным уздыхам казаў:

— Эх! Маўчаць бярозы: мусіць, ніколі Міна не будзе цвярозы!

І зноў паціху калдыбаў у вёску і шукаў, каб дзе якую кроплю ўхапіць і душу адхаіць.

## ЯК ВАРЫВОН ЗУБЫ РВАЎ

Быў у мяне сусед. Варывонам яго звалі. Неяк зубы яму ўсхадзіліся. Ды так, што ён не ведае, што рабіць, якой ім рады даць: і часнок жаваў, і гарэлку закладаў. А яны душу з яго выкручваюць, хоць на сцяну лезь. Енчыў ён енчыў. А жыў адзін. Да вайны тое было. Зубнога доктара нідзе паблізу. Дзесь у мястэчку жыў. А гэта трэба ехаць. А яшчэ трэба было падумаць, на чым. Дык што ён робіць? Гукае мяне, кажа:

— Памажы зуб вырваць.

— А як я табе памагу? — пытаюся.

— Я, — кажа, — уваб'ю ў дзверы цвік. Прывяжу да гэтага цвіка і да майго зуба суровую нітку. А табе трэба адно толькі дзвярыма шмаргануць. І мой зуб вылеціць вон.

Як дамовіліся, гэтак і зрабілі. Я тыя дзверы шморг, а мой Варывон брык пасярод хаты — і ляжыць ні жывы ні мёртвы. І зуб на нітцы матляецца.

От так мы колісь лекаваліся, ад зубных боляў ратаваліся. А што Варывон? Паляжаў трохі, паляжаў, апрытомнеў, кроў сплюнуў, трохі яшчэ паенчыў. Спакваля, як боль аціх, кажа:

— Як нанову радзіўся, такі мне зараз свет мілы.

## ЗАМІРЭННЕ ПРАЗ АБРАЗОК

Кажуць: жыццё пражыць — не поле перайсці. Трэба мець вялікую мудрасць, каб жыццё пражыць у ладзе і згодзе. У ладзе і згодзе трэба жыць не толькі ў сям'і, але і з суседзямі. А калі ўжо надарылася якаясь спорка, не заладзілі нечага з суседзямі, трэба тут жа замірыцца. Нельга ж у сварцы доўга жыць. На Лагойшчыне хтось больш уступлівы, больш мудры казаў:

— Даю руку табе, суседзе, праз абразок. Дай і ты мне сваю праз абразок.

І падавалі. На тым і мірыліся. А калі ж нехта, падаючы руку, быў няшчыры, крывіў душою, з тым абавязкова здаралася якоесь няшчасце. І найперш з той рукою, якую падаваў на замірэнне. Яна ці крывенькая рабілася, ці ўсыхалася, ці пальчыкі скручваліся. Так што кожны, хто падаваў руку на замірэнне праз абразок, мусіў добра падумаць, што яго чакае, калі слова сваё не стрымае.

## У НЕКАТОРЫХ ЛЮДЗЕЙ — ДА ГРУДЗЕЙ, А Ў НАС ТОЛЬКІ АД ПУПА І ТО СКУПА!

Гэтую показку я пачуў у лякарні «Хуткай дапамогі». І вось з якой нагоды.

У лякарні быў абвешчаны каранцін. Пра гэта нагадвала і абвестка. А пры ўваходных дзвярах нават былі расстаўлены турнікеты. Тым не менш, між тых турнікетаў калі-нікалі прашмыгвалі некаторыя. Я пацікавіўся ў гардэробшчыцы:

— А што гэта адным можна, а іншым — не?

А яна на гэта:

— Ну і што? У некаторых людзей — да грудзей, а ў нас толькі ад пупа і то скупа!

Я пацікавіўся, адкуль у яе такая показка.

— А з Стаўпеччыны, — сказала яна. — З радзімы Якуба Коласа. У нас заўсёды так гавораць, калі нехта на людзей спасылаецца, апраўдання шукае.

## БРАХАЦЬ НА ВАДУ

Гэтак казалі ў нашых Шалухах, што пад Радашкавічамі. А чаму?

Былі галодныя гады. А тут пост Велікодны. Купілі гаспадары селядцоў і паклалі ў сенцах. Аж у тыя селядцы ўбіўся сабака. А ён быў галодны. Бо як у гаспадара нішчымніца, то і жывёла не жыруе.

І што далей? Наеўся сабака тых селядцоў, і смага пачала яго сушыць. Страшэнная прага піць! А ў нас недалёчка сажалка была. Смак прахалоднай вады сабака добра ведаў з летняга часу. Дык і пабег да яе. Піў, піў, а смагу ніяк не натоліць. І піць больш не можа, бакі ўжо ад вады трашчаць, і язык ад солі сохне.

Дзед, пачуўшы сабачы брэх, выбег з хаты. Бачыць, а сабака каля сажалкі, высалапіўшы язык, скача. Падбяжыць да вады, хлебане, а потым адскочыць і на ваду злосна брэша.

От з тае пары і пачалі ў нашых Шалухах пра ўсякія безнадзейныя, марныя памкненні гаварыць: брахаць на ваду.

## БОНДАРАВА КАРОВА

Не ведаю, як дзе, а ў нас пра чалавека, які сноўдаецца без занятку, кажуць: «Што ты тут брындыкуеш, як бондарава карова?»

Бондарава карова!..

Чаму бондарава?..

Гадалі мы, гадалі, адкуль такая помаўка, і ніхто не мог здагадацца, вымеркаваць яе выток. Але аднойчы я пачуў…

Жыў тут адзін бондар. Добры быў бондар. Залатыя рукі меў. Штукаваў бочкі, цабэркі адмысловыя. Пачуваў сябе незалежна. Ён нават карову сваю не ганяў у статак. Яна ў яго хадзіла, дзе хацела. Часам і на чужыя агароды заходзіла. Іншы раз і ў лес убівалася. Ці яшчэ лепш — у балота. Вось таму і гавораць: «Брындыкуе, як бондарава карова». Гэта значыць, бадзяецца, дзе хоча і колькі хоча.

## ПАРОНКІ

Быў тут у нас адзін настаўнік. Усе яго звалі Яўхім. Быў ён нетутэйшы. Сюды яго аднекуль здалёку прыслалі. Лічыў ён сябе за чалавека вышэйшай культуры. На тутэйшы люд, яго мову глядзеў звысоку. Асабліва ён

крывіўся на словы «паронкі», «паронка». Тутэйшы люд тут жа падхапіў гэтыя паронкі. Як толькі што, дык гукалі яму пад вокны:

— Яўхім, хадзі паронкі есці!..

Рабілі гэта і дзеці, і розная іншая вясковая блазнота. Як толькі звечарэе, дык толькі і чуваць пад ягонымі вокнамі:

— Яўхім, хадзі паронкі есці!..

І хто ні ішоў паўз ягоны двор, дык гэтак гукаў. І што? Не вытрымаў Яўхім гэтых паронак, з'ехаў праз іх з вёскі ў нейкі іншы і далёкі адсюль край.

Але што ж гэта за паронкі, якімі так данялі вяскоўцы пыхлівага настаўніка? Ды самая звычайная вараная бульба. А чаму паронкі? Мусіць, таму што як звараць ды на стол паставяць, дык пара яе ў самую столь дае.

## НЕ ЖЫВАТАЙ

Маленства!..

Хлапечае маленства! Часам яно было і задзірыстае, і ваяўнічае. Надараліся і бойкі, і розная іншая валтузня. Часта, вырваўшыся з рук сваіх крыўдзіцеляў, скрыўджаны, адбегшыся на пэўную адлегласць, махаючы пагражальна кулачком, казаў:

— От пачакайце! Трапіцеся вы мне адзін на адзін — я вам пакажу! Даравання не будзе!

І гэтая пагроза звычайна падмацоўвалася вельмі моцнымі словамі:

— Злаўлю — не жыватай!

«Не жыватай!» — гэта значыць, не чакай літасці. Выток гэтай моўнай формы з такой семантыкай, на думку прафесара, доктара філалагічных навук Генадзя Цыхуна, хутчэй за ўсё ўзыходзіць да праславянскага «жывот» — жыццё. Невыпадкова ж у рускай мове часам

можна пачуць: «Не на жывот ідзем, а на смерць», што азначае: «Не на жыццё, а на смерць».

## Глухія паехалі ў дровы сухія

Было гэта ў адным з беларускіх прафілакторыяў. На якойсь культурна-асветнай імпрэзе пазнаёміліся Ён і Яна. У той жа вечар — слова за слова — разгаварыліся. Яна, ужо досыць сталая жанчына, какетліва пытаецца ў свайго новага знаёмага:

— А як вы думаеце, кім я была ў свае маладыя гады?

Ён гэтак зычліва, з душою агледзеў яе і натхнёна-ўзнёсла, каб зрабіць штось прыемнае сваёй новай знаёмай, і кажа:

— А пэўна, што вы былі актрысай.

Сказаў гэтак і глядзіць, якая будзе яе рэакцыя на ягоную «здагадку». А тая аж уся перасмыкнулася, паружавела.

— Якая яшчэ я вам крыса?! — абурылася. — Дажылася!

Давялося патлумачыць пані, што не «крыса», а «актрыса».

Жанчына рассмяялася і кажа:

— Гэта ў народзе называюць: «Глухія паехалі ў дровы сухія».

## Тайка

Ад Уладзіміра Ліпскага пачуў, што ягоныя шоўкавіцкія калінкі звяртаюцца адна да аднае на тэйку, называюць адна адну тэйкай.

Тэйка!.. Калісьці і я скрозь чуў гэтае слоўка ў гаворцы нашых мормальцаў. Праўда, у поўным аканні: тайка.

— А мая ж ты таечка… А мая ты тайка…

Гаварылася гэта з якойсьці сардэчнасцю, з таямнічай танальнасцю, заінтрыгавана, з замілаванасцю. Да зваротаў «тайка», «таячка» часам дадаваўся яшчэ прыдомак «пані»:

— А мая ж ты пані таечка!

Гэтак гаварылася, калі хацелі кагось наладзіць на якісь асаблівы давер.

Гаворым пра гэтых таечак з матуляй:

— Даўней, калі каторая хацела сардэчна пагаварыць з таварышкай, пачынала з тайкі… І я, малая, так гаварыла… І мая мама так гаварыла… І ў школу калі хадзіла, дык мае таварышкі адно былі тайкамі… Цяпер гэтага не пачуеш. Прапалі тайкі… Пазміралі ўсе мае таечкі. Адна я засталася. Ды і то жыву Бог ведае дзе ад сваёй радзіны, радзімы. Няма мне з кім і патайкаваць, хоць бы і хацела.

## Я Ж НЕ ГРЫШКА!..

Так кажуць у нас, калі аднаму чалавеку даручаюць адразу дзесяць работ. Чаму ж так гавораць? Жыў-быў у нашай вёсцы адзін дзяцюк. Дзябёлы, трывалы. Усё яму Бог даў: і ростам удаўся, і сілай. Але з прыроды быў глуханямы. Даўней на вёсках глуханямымі ніхто не займаўся. Раслі яны, на лес гледзячы. Ані навукі ім ніхто ніякай не даваў, ані так пра іх разумовае развіццё не клапаціўся.

Раслі сабе гэтыя нямкі між людзей і што самі сваім розумам дабіралі з людскога жыцця, тым і жывіліся, тым і жылі. Не ўсё ў іхніх учынках было суладнае з звыклым укладам людзей. Дый нічога дзіўнага. Нямкі

ж абдзеленыя вялікім дарам, якім прырода адарыла чалавека, — мовай і слыхам. Таму і свет яны крыху інакш успрымаюць.

От і наш Грышка. Нелюдзімы быў. Але як яму, небараку, быць людзімым было. Каб зразумелі, што ён хоча, што думае выказаць, колькі яму высілкаў кожнага разу каштавала! То лепей з гэтымі людзьмі ніякіх клопатаў не мець! Тады яму лягчэй і прасцей. Затое які працаўнік быў Грышка! Усе дровы на конях возяць. А Грышку нашто коні? Ён сам як конь. Пойдзе ў лес, нагатуе бярвенняў з дзесяць, на плечы ўзваліць адно-два, метраў дзвесце-трыста пранясе — і бяжыць па іншыя, па астатнія… І гэткім парадкам ён прыносіў цэлы воз, усе свае дзесяць паленцаў. І рабіў усё ён гэта бяжком, бяжком, не разгінаючы галавы. А лес ад вёскі, трэба сказаць, быў няблізка — кіламетры за тры. Але для Грышкі гэта ўсё нічога не значыла.

Вось таму, калі камусь даручаюць якуюсь мітуслівую, не па сіле працу, і кажуць: «Я ж не Грышка!..»

## ХОБАТ

У майго дзядулі была дзіўная мянушка — Хобат. Як толькі што, дык адно і чуеш: Хобат ды Хобат. Мяне гэта крыўдзіла і бянтэжыла: адкуль прычапіўся да яго гэты хобат? Хобат, ведаў я, — гэта ў слана доўгі, як труба, вяртлявы нос, якім ён круціць, як хоча, робіць ім, што хоча. А ў нас якія сланы? Іх тут няма і не было. Імі тут і не пахла! Адно хіба ў нас сланы, на якіх сядзяць, — лавы. Але прычым тут хобат? Адкуль хобат? Гэтага ніхто не ведаў.

І от аднойчы ў беларускім слоўніку Івана Насовіча вычытаў: «Хабоцце — лахмоцце. Прымі адсюль сваё хабоцце. Разлажыўся з сваім тут хабоццем». Значыцца,

гаворка ідзе пра беднага чалавека, бедака, пра ягоны небагаты набытак.

## САНКІ-КАЛЯСКІ

На мянушкі наш люд вельмі спрытны. Як запрыкмеціць у чалавеку штось, станоўчае гэта ці заганнае, адмоўнае, — і мянушка тут як тут. Прылепяць яе — і на ўсё жыццё, на ўвесь твой век. Ды гэтак трывала прылепяць, што гэтыя мянушкі дзецям і ўнукам перадаюцца.

Жыў сярод нас Васіль Гаўрылкаў. Прыйдзеш да яго зімою санкі прасіць. А ён прыкінецца, што недачувае, і будзе казаць:

— Га? Чаго? Каляскі? Вунь яна ля пуні пад сцяною стаіць. Бяры!

Гэта зімою! А летам наважыцца хто ў таго Васіля каляску папрасіць, то чуе:

— Га! Што? Санкі? Вунь яны — пад паветкай. Бяры… Мне не шкада!

З тае пары гэтага Васіля гэтак і празвалі — Санкі-Каляскі.

Вельмі гэты Васіль быў няўжыўчывы. То ён меў і не адну мянушку. Называлі яго яшчэ і Швэрам, і Боджаем. Як толькі што, дык Васіль Боджай ці проста Швэр. Што за мянушкі, зараз ніхто не можа патлумачыць. Толькі здагадваюцца: швэр, швэркаць — гэта невыразна мовіць некаторыя словы ці гукі ў іх. Мабыць, такое паходжанне і мянушкі Боджай.

Пра Васіля Гаўрылкава і яшчэ распавядаюць адну гісторыю. У маладыя гады служыў ён у царскім войску. От аднаго разу яго паставілі на пост. Стаіць ён на тым пасту. Вядома, з вінтоўкай. А якраз гэтай парой быў абход. І трэба ж, якраз гэтай жа парою вароны ляцелі.

Дык наш Васіль з вінтоўкі той ляскае. Ляскае з прыгаворам:

— Акыш, чорныя куры! Акыш, чорныя куры!

Пачулі гэта афіцэры з абходу і тут жа знялі яго з паста. Пасля і зусім камісавалі.

А трэба сказаць, Васіль няблага на гармоніку граў. То як якая гулянка, дык Васіля запрашалі. І ніхто тады яго мянушку не ўспамінаў. А так, у побыце, толькі і чулася: Васіль Боджай, Санкі-Каляскі, Швэр.

Мянушкі Боджай і Швэр перадаліся і яго сынам. Іх таксама называлі Швэрамі і Боджаямі.

## ІВАН ЛОЎЛЕНЫ

Неяк пачуў: «Дык тое было яшчэ тады, як тут жыў Іван Лоўлены». Мяне зацікавілі гэтыя словы. І найперш Іванава прозвішча — Лоўлены. Пачаў пытацца, выпытваць, што гэта за Іван такі, скуль ён і чаму Лоўлены. Нейкае сёмае чуццё падказала, што за гэтай назвіскай тоіцца якаясь дэтэктыва. Дык жа ж і не памыліўся!

Заставалася толькі дазнацца, за што ён злоўлены, чаму ён лоўлены. Мо які злодзей быў ці дэзерцір. Ды самае цікавае: і не дэзерцір, і не злодзей, а самы што ні ёсць участковы міліцэйскі. То чаму ён тады Лоўлены? Гэта ж ён мусіць усіх лавіць, а тут яго лавілі.

Высвятляецца, што ён хоць і міліцэйскі быў, але не вельмі з жонкай ладзіў. Дапякала яна яго. Не меў ён спакою ад яе ні ўдзень, ні ўначы. Абрыдла яму ўсё гэта, не вытрымаў і аднаго разу збег ад яе ўпрочкі. І не ў блізкія. Дзесь ці то ў Крым, ці ў Сібір. Пажыла Іванава жонка з паўгода адна ды замаркоцілася. Змарнела. Сумна ёй стала без Івана, няўтульна, пуста, холадна. Нікому іншаму непатрэбная. І кінулася яна на пошукі свайго Івана. Мо з год шукала ці болей, але знайшла. Знайшла

і вярнула дадому. З тае пары і завецца Іван Лоўленым. Многія ўжо і праўдзівае яго прозвішча забыліся, ніхто яго па бацьку не заве, а толькі Лоўлены.

## БРЫТАН

Жыў калісь у нашай вёсцы Мікалай Кікінёў. Жыў бедна. Непісьменны быў. І надта быў люты чалавек, жорсткі. Асабліва лютаваў за немцамі, як уладай яго надзялілі, бургамістрам прызначылі. Біў людзей, біў чым папала, што пад рукі трапіць. Палка — дык палкай, бізун — дык бізуном, жалезны прэнт — дык прэнтам. І ўсе яго называлі Брытан.

Мянушка мне гэтая запомнілася, уразіла. Я трохі напытваўся, чаму яго гэтак звалі. Нехта, здаецца, казаў: за тое, што ён нібыта галаву нагала галіў. Таму і Брытан. Мне тады дастаткова было і такога тлумачэння. Люты чалавек з начыста голенай галавой — абрыс даволі выразны для жорсткасці. Але вось вычытаў у польскім слоўніку, што «брытан» — гэта «вартавы сабака».

Ну, што ж, калі так, то мянушка вельмі адпавядала гэтаму Брытану з нашай вёскі. А само слова яшчэ раз пасведчыла, што ў народнай мове нічога няма выпадковага. Проста надараецца, што людская памяць забывае сэнс слова. Але хвала Богу, што побач жывуць суседнія народы, дзе гэтыя словы парупіліся запісаць у слоўнікі.

## ФАТОГРАФКА

Мянушкі! Колькі іх! Каб сабраў іх усе разам, ды расшыфраваў, ды ўклаў у слоўнікі — не адзін том атрымаўся б. Ой, якая гэта была б цікавая праца! От

у нас Юльку Заблоцкую звалі Фатографкай. А чаму? Вельмі любіла з усімі сварыцца. Калі не пасварыцца з кім за цэлы дзень, дык не яна будзе. Вельмі маркотна было для яе без сваркі. Любіла яна сварыцца і вельмі спраўна ўмела гэта рабіць. Сварыцца, сварыцца, а як ужо слоў не стае, дык на фігі пераходзіць. Круціць іх, круціць, тыкае-тыкае. А як фігі слаба памагаюць, дык яна перагнецца, павернецца задам да суперніцы, спадніцу задзярэ і як блісне на яе сваім голым азадкам з ружовымі палавінкамі — даўней мала хто з беларусак насіў панталоны — ды яшчэ папляскае па іх гулка рукою: «От, на табе! На! Выкусі!» Дык той тут мову займае. І тады ўжо Юлька, спакойная і задаволеная, пераможна ідзе ў свой двор. От за гэта і празвалі яе, Юльку, Фатографкай. А слова «фатаграфаваць» набыло яшчэ адно значэнне: паказаць, перагнуўшыся, голы азадак. І калі вы пачуеце, што нехта некага сфатаграфаваў, дык яшчэ добра падумайце, як і чым.

## КАРОВІН ШАЛ

Было тое ў колішняй Заходняй Беларусі. Польшча ладзіла якоесь сваё свята. Ці не дзень свае Канстытуцыі? Гэта свята палякі асабліва шанавалі.

Прыехаў у Мігаўку вайсковы аркестр. Выбралі на чыімсь падворку пляцоўку і разанулі на ўвесь дух ва ўсе трубы, дый у бубны далі! То людзі як людзі: яны да ўсяго звыклыя. А вось жывёла ў хлявах не вытрымала, да шаленства даходзіла. Кідалася ў хлявах ад сцяны да сцяны. Для яе была гэта нечаканка. А адна карова як дала з шалу рагамі ў дзверы, дык тыя дзверы на рагах і вынесла. А калі хапіліся, дык яна ўжо была за мяжою, за Радашкавічамі. Пасля, праўда, яе вярнулі. Але ж і гаманы было.

Уласаў таксама быў уражаны гэткім канцэртам. Адно хадзіў па Мігаўцы і казаў сваё звыклае:

— Здорава! Здорава! Сыгралі!

## УРА! УРА! УРА!

Жыў тут у нас адзін. Звалі яго Кузьма. Быў ён трохі глухаваты.

От настаў першы ў Заходняй Беларусі пасля верасня 1939 года Вялікдзень. Пайшоў Кузьма па валачобніках. Заходзіць у першую хату. Зайшоў, стаў і стаіць у парозе. Маўчыць. Гаспадар і кажа:

— Што, Кузьма?

А Кузьма, замест таго, каб проста сказаць «Ісус уваскрос!», як гаркне:

— Ісус уваскрос! Ура! Ура! Ура!

Падумаў, што за новай уладаю трэба гэтак вітаць гаспадара на Вялікдзень. Чуў, як гэта савецкія жаўнеры віталі свайго камандзіра, і проста прыстасаваўся.

## СВОБАДА

Падчас першай сусветнай вайны ў славутую зараз Купалаву Вязынку, у маёнтак пана Жамбіцкага, прыслалі чатырох палонных. Аднаго з іх звалі Свобада. Ён быў чэх. Гэты чэх упадабаў адну з дачок пана Жамбіцкага. Упадабаў і прыкіпеў да Вязынкі. Спакваля з парабка выбіўся ў гаспадара. Гаспадарыць сабе, сям'ю завёў. А тут улада мяняецца: Саветы ў 1939 годзе прыйшлі, у Радашкавічы гукаюць, у райзо — раённую зямельную ўправу. Пытаюцца ў яго:

— Ты хто?

— Я, — кажа ён, — Свобада.

— Хто-хто? — аж падскочыў камісарчык? — Якая яшчэ Свабода?! Мы вам свабоду прынеслі. А ты што — здзекавацца?

І ледзь не з кулакамі кідаецца да вязынца. Добра, што побач быў чалавек з Вязынкі. Ён і заступіўся за Свобаду, сказаў, што ён такі Свабода — гэта яго прозвішча такое, што ён колішні палонны чэх. Толькі тады радашкавіцкі камісарчык трохі аціх. А пашпартоў — довудаў асабістых — вяскоўцы тады не мелі. От і даводзілася пераконваць на пальцах і словах, што ты ёсць ты.

## НЕ ПАЙШОЎ У АРКУ

Было тое ў вёсцы Клюндзеўка на Барысаўшчыне. Жыў там Міхал Валчанскі. Было яму гадоў трыццаць. Кожнага дня яму даводзілася хадзіць ля аркі — была калісь за бальшавіцкім часам такая ў вёсках забудова, якая нагадвала вялізную браму, але без дзвярэй. Звычайна гэтыя аркі ставілі на вуліцах паблізу сельсаветаў, клубаў, абвівалі дзеразой, ялінкавымі лапкамі, а зверху стрэшка такая з партрэтам правадыра. Нехта з клюндаўцаў прыкмеціў, што Міхал Валчанскі абыходзіць арку, ходзіць не праз яе. Пытаюцца:

— Чаму, Міхал, праз арку не ходзіш?

— Я не пайду ў гэтую вашу чортаву арку…

Як не пайду, то і не пайду… А на другі дзень прыехала шасцёра кадэбістаў. Чацвёра пры вокнах пасталі, а двое ў дзверы грукаюць:

— Збірайся! Не хочаш праз арку хадзіць, будзеш пад аўтаматам хадзіць.

Як забралі, дык нібы ў ваду кануў ці скрозь зямлю праваліўся.

## НАЖАРТАВАЎ НА СЕМ ГАДОЎ

Жыў у Доктаравічах на Капыльшчыне дзядзька Сямён. Прозвішча было Лебядзевіч. Але між сабою яго ўсе звалі проста Сэм.

Былі выбары. А галасавалі за Наталевіча. Было гэта якраз на Вялікдзень. Дзядзька Сэм выйшаў з двара на вуліцу, стаіць з яйкамі, каб з кім у біткі пагуляць. А яго гукаюць:

— Сямён, пайшлі галасаваць!..

Ён устаў з лавачкі і кажа:

— Хэ-хэ-хэ!.. Не галасуйце за Наталевіча… Галасуйце за Лебядзевіча.

Гэтага было досыць, каб Лебядзевіч надоўга, гадоў на сем, знік з вёскі. Пасля вяртання гады тры яшчэ памадзеў і памёр.

## СМЕРЦЬ НА СУДЗЕ

На самым канцы Акулаўкі жыў Савасцей Дубкоў. Рабіў на чыгунцы. Ездзіў на працу ў Жлобін. Быў ён там нейкім начальнікам. Але аднаго разу дадому не вярнуўся. Сказалі, што яго арыштавалі, што ён якійсь вораг народа. Што ён там быў за вораг — ніхто не ведаў. Але ворагу прызначылі суд.

Прывезлі яго на той суд. Ніхто яго не пазнае — ні дзеці, ні жонка. Увесь сівы, белы-белы… А быў жа малады, прыгожы.

От ідзе суд. Сведкі сведчаць. Суддзя штось гаворыць, чытае. Пракурор прысуд чытае. А падсудны і вухам не вядзе: як сядзеў, так і сядзіць. Даюць яму слова, сказалі падняцца, а ён не ўстае. Падышлі, глядзяць, а ён нежывы.

Так ніхто і не ведае, за што звялі чалавека, сям'ю асірацілі. Было ў яго ўжо чацвёра дзяцей. Жонка, Прося, пятым хадзіла. Тое пятае ўжо без яго радзіла…

## ЯК З БЕЛАРУСКІХ ЛЮДЗЕЙ ВЫГАНЯЛІ БОГА

Бывала, збяруць ля царквы людзей і вядуць з імі гамонку. Нехта з актывістаў выйдзе з натоўпу, падыме галаву да неба, затым зірне на царкву і кажа:

— Бог, Бог! Дай нам пірог!

Мінала хвіліна, другая. Поўная цішыня. Ніхто нікому нічога не дае. Тады той жа актывіст прамаўляе другое:

— Сельсавет, сельсавет! Дай гарэлкі і канфет!

І тут, адкуль ні вазьміся, выскокваюць дзецюкі — малойцы з скрынямі — і раздаюць налева і направа цукеркі, а каму і гарэлкі чарку.

От так і ваявалі супраць Бога.

## ТАРМАЗЫ З ВЯРОВАК

Мо не паверыце, але гэта не выдумка. Такое было. Паблізу Карэлічаў, неўзабаве пасля вайны. Жыццё яшчэ як след не наладзілася. І калгасаў у нас яшчэ не было. Пра іх у нас адно гаварылі. Ведама, заходнікі мы. Дык от, адзін наш чалавек, нягледзячы на нядаўнюю вайну, паспеў ладнага вепручка выкарміць. Выкарміў і закалоў таго вепручка. Закалоў дый думае: «Дай трохі прадам. Няма адкуль капейчыну ўзяць». І от дабраўся ён з той свежанінаю неяк да трасы — нехта яго на кані падвёз. Стаіць ён з жонкай і галасуе, кожнай машыне кланяецца, каб хто да Наваградка падвёз. А якія тады

машыны былі? Адны палутаркі-тарахцёлкі. І колькі іх было! От ляціць адна такая тарахцёлка. Гаспадар лісліва ёй кланяецца. Правую руку на сэрца кладзе. Машына прыпынілася:

— Кідайце свае ванзэлкі ў кузаў, а самі бярыцеся ззаду за вяроўкі. Будзеце тармазіць, калі вам спатрэбіцца, у мяне тармазы слабыя.

Сказаў кіроўца гэтак і як газануў! Тыя вяровачныя тармазы ўбакі паадляталі. Ну і ванзэлкі іхнія з свежанінай памінай як звалі.

## НЕМКА

Мінулая вайна нарабіла горачка ўсім. І людзям, і жывёле. Неўзабаве пасля капітуляцыі з Германіі пачалі прыганяць на Беларусь коней, каровы і прадаваць іх між людзей і калгасаў. І ўсё б нічога. Ды от бяда: жывёлка з чужых краёў не разумела нашае моўкі. А шмат хто пра гэта забываўся. І як толькі што не так, не па іх, дык цягнуліся па дручок.

Найбольш даставалася коням-ламавікам. От неяк раз з чарговым загонам прыгналі з Германіі адну вялізную, з шырокім чырвона-бардовым крупам кабылу. Ногі ў яе былі тоўстыя, як у слана. Капыты шырокія — па лапцю. І сама таўшчэнная — ледзь у аглоблю ўлазіла. Для яе і збруя была асобых памераў. Тую збрую разам з ёю з Германіі прывезлі. Яе адразачку ж ахрысцілі Немкаю…

Як і ўсе ламавікі, была яна маруда з марудаў. Ці пусты воз цягнула, ці нагрувашчаны вышэй за яе самую, клыпала яна аднолькава павольна, марудна. Нашто ўжо коні зыкоў ды розных іншай завядзі баяцца. Як толькі пачуюць, што авадзень загудзе, дык наўскачкі ляцяць, з аглобляў вылузваюцца, гатовы разнесці іх на лучынку.

А Немка хоць бы што. Ёй і зыкі не зыкі! Як ішла, так і ідзе: клып-клып-клып, лэп-лэп-лэп.

А гэта якраз нервавала шмат каго. Трэба ўсё хутчэй рабіць, а тут гэтая маруда. То і даставалася бедалазе. Лупцавалі яе чым папала, што пад руку трапіла. Але гэта мала памагала. Людзі не хацелі яе браць, запрагаць. Але што зробіш: як няма чаго выбіраць, то бралі і Немку. Бралі і абураліся, і зганялі на ёй усю сваю наўду рознымі праклёнамі. Даставалася і Гебельсу, і Гітлеру, і ўсяму нямецкаму роду. Але была яна вынослівай. З усіх прыгнаных з Германіі коней пражыла найдаўжэй. Хлопцы-падлеткі спрабавалі яе паганяць па-нямецку. Тузаючы за лейцы, крычалі: «Шнэля-шнэля!» Але вынік быў той самы. І тады зноў пускалі ў ход апрабаваны дручок. На гэтай Немцы людзі нібы зганялі ўвесь свой гнеў за тое гора, якое прынесла ім вайна.

## ІНТЭЛІГЕНТ

Восень. Па вясковай вуліцы плыве высокі бухматы воз з сенам з фурманам наверсе. Воз плыве павольна і плаўна, конь ступае мерна, няспешліва: клып-клып, абы не стаяць. Аж неўзабаве перад канём вялізная, як азярцо, мутная восеньская лужа. Конь ішоў-ішоў, дайшоў да лужыны і спыніўся. Возца рэзка шмаргануў за лейцы і на ўсю ваколіцу незадаволена выгукнуў:

— Но, Інтэлігент!..

## СЮДЫ ШМАТ ХТО ПРЫЯЗДЖАЕ...

21 сакавіка 1985 года газета «Голас Радзімы» надрукавала адзін цікавы здымачак: славуты дзядзька Юзік, Коласаў брат, у шчырай, нязмушанай размове з

Ігарам Лучанком і Уладзімірам Мулявіным. Славутыя нашы музыкі абступілі самабытную постаць дзядзькі Юзіка і гамоняць з ім. Я быў сведкам гэтай размовы. Ігар Лучанок, пагаварыўшы трохі пра тое-сёе, пытаецца ў дзядзькі Юзіка, паказваючы на Мулявіна: а ці ведае ён, з кім размаўляе, хто перад ім? Дзядзька Юзік кінуў гэтак вокам на Мулявіна прыцэначна, што за птушка перад ім, дый кажа:

— Сюды шмат хто прыязджае… Можа, і гэты сюды калі прыязджаў…

Мулявін з Лучанком дружна рагатнулі… А хтось з спрытных фатографаў якраз і падлавіў гэты момант.

## ЧАШЫ ХВОЙКУ

Неяк на аўтобусным прыпынку ля мінскага цырка адзін дзядок вельмі мне нагадаў дзядзьку Юзіка, брата Якуба Коласа. Гэтакі ж хударлявы, з такімі ж самабытнымі вусікамі. Мне дужа карцела да яго падысці, загаварыць з ім. Але не адважыўся. Тут якраз падкаціў соты аўтобус, і кожны з нас незалежна адзін ад аднаго зайшлі ў яго, балазе ў тым аўтобусе аж чатыры ўваходы.

Я выйшаў на плошчы Перамогі і зайшоў у вядомую ўсім мінчукам хлебную краму «Каравай». Якое ж было маё здзіўленне: у тым «Караваі» я зноў напаткаў таго чалавека, які мне вельмі нагадваў дзядзьку Юзіка. І тут я не вытрымаў, загаварыў з ім, сказаў, што мяне змусіла зачапіць яго. Ён падзівіўся, што я ў ім знайшоў падабенства з братам Якуба Коласа. Але дзядзьку Юзіка ён ніколі не спатыкаў, ніколі не бачыў. Здавалася б, наша размова згасае. Тады я пацікавіўся ў двайніка дзядзькі Юзіка, адкуль ён родам, дзе яго радзіма. І тое, што я пачуў, яшчэ больш здзівіла мяне і астудзіла:

— Аж з Севастопаля! — сказаў ён. Але, заўважыўшы маё расчараванне, супакоіў: — Але ў Беларусі жыву даўно!

Я пацікавіўся, хто ён з прафесіі, чым займаўся да пенсіі:

— Я лесаўпарадчык. Па Беларусі давялося шмат паездзіць. Адною парою гады два жыў на Пухаўшчыне, у таго гаспадара, у якога калісь кватараваў і Якуб Колас. Дык той успамінаў, што Якуб Колас часта прасіў у яго: «Чашы хвойку! Надта ж я люблю пах смолкі…»

Я не пацікавіўся, як завуць, як мне падалося, двайніка дзядзькі Юзіка. Але запрашаў яго заходзіць у музей Якуба Коласа. Дасць Бог, там і сустрэнемся, болей пра што пагамонім і пакажам яму фотападабізну дзядзькі Юзіка, а ён ужо сам канчаткова вырашыць, ёсць гэтае падабенства ці гэта мне толькі намроілася. Адно толькі скажу: мову нашу ў яе жывым гучанні ён засвоіў.

## ДАВАЙ ЦАРА!

У адной местачковай лякарні практыкаваў фэльчар. Досыць удалы такі. Усё ўмеў. Слыў ён і як спрактыкаваны акушэр. Прозвішча ягонае было Кароль. Усе парадзіхі, калі ў іх надараліся якіясь цяжкасці з родамі, гукалі толькі яго. Звычайна парадзіхі скрозь пракушаныя губы з стогнам казалі: «Усё! Няма больш могі! Гукайце хутчэй Караля!» І гэты Кароль, як збаўца які, ляцеў да цяжкіх парадзіх і дапамагаў ім шчасліва разрадзіцца.

Вельмі цяжкія былі роды ў адной тутэйшай маладзічкі. Яна пагнула ўжо ўсе прэнты на ложку, а разрадзіцца ўсё ніяк не магла. Ужо зусім знемагла, траціла прытомнасць. У галаве ўсё блыталася, бунтавалася. Усё ж яна паспела ў самы крытычны для яе момант выгукнуць: «Давайце!..» Толькі замест звыклага «Давайце Караля!» у яе

вырвалася: «Давайце Цара!» І гэта, хоць у радзільні ўсе ў напружанні былі, выклікала ва ўсіх святую ўсмешку, нават у самой парадзіхі!

## КАША З ГАРЭЛКАЙ

Даўно тое было, калі мы ўсе былі маладыя. Паехалі неяк раз на Вішнёўскае возера. Палатку раскінулі. Была і вячэра. І па чарцы зрабілі. Назаўтра кашу згатавалі. Пачалі есці — якаясь гаркаватая, гарэніць. Згадалі, што з учарашняга дзесь кропля ў нас засталася. То чаго дабру прападаць?!

Пачалі шукаць — нідзе знайсці не можам. Пляшкі ёсць, а гарэлкі ні кроплі. Ведаем, ніхто з нас на яе не паквапіўся. Сярод нас няма прагных, падкіх на тое зелле. Але ж і гарэлкі няма. Тады наша кашаварка і кажа:

— Мусіць, я на той гарэлцы кашу зварыла. У такой жа пляшцы ў нас і вада была, дык я пераблытала.

Паглядзелі… Такі праўда: пляшка з вадою ў куце палаткі, а гарэлку ў кашу выплюхалі…

Ну што — пасмяяліся. І кашу тую неяк змялі. Кухаварка яшчэ прыгадала, калі яна кашу варыла, то тая каша сінім агеньчыкам часта ўспыхвала. Падзівілася яна яшчэ тады: «Чаго гэта яе забірае?» Але тыя сінія агеньчыкі прытушвала частым памешваннем варыва.

## ЯЙКІ ПАДВАЛІ

Адзін хірург, як гэта ні дзіўна, — чаго ў жыцці не здараецца! — хаўрусаваў з святаром. Неяк раз сустрэліся яны, і святар кажа: у прыходзе за велікодныя дні сабралася ладнага яек. Ці не паспрыяў бы хірург, а ён быў загадчыкам клінікі, рэалізаваць тыя яйкі праз іхнюю бальнічную сталоўку?

— А чаму б і не! — пагадзіўся той.

Зрабілі, як дамовіліся. Перавезлі тыя яйкі з прыходу ў лякарскую сталоўку і назаўтра пачаставалі імі хворых. І здарылася непрадбачанае: шмат якія яйкі былі прыпсутыя і разладзілі жывоцікі хворых. Хірург гэткага канфузу не чакаў і мусіў расквітацца з сваёй пасадаю, а заадно і з святаром развітацца. От гэтак хірург пагарэў на прыходскіх яйках.

## СТАЛІНКА-ГАЛІНКА

Яе ўсе, колькі я помню, звалі Галінай, Галінкай. Але аднаго разу мне патрапіў на вока яе пашпарт. Разгортваю яго і бачу — о, Божа праведны! — наша Галінка ніякая не Галінка, а Сталіна, Сталінка. Гэта мяне, натуральна, дужа зацікавіла. Я неўзабаве сустрэўся з ёй. І от што пачуў:

— Мой тата быў заўзяты партыец, — згадвала Сталінка-Галінка. — Апошнім часам, да вайны, працаваў у Чэрыкаўскім райкаме партыі інструктарам. Усіх сваіх дзетак, а іх у яго было чацвёра, і ўсе дзяўчынкі, называў у гонар знаных дзеячаў, іхніх дзяцей. Першую сваю дачушку ён назваў у гонар нямецкай рэвалюцыянеркі Розы Люксембург — Розай. Затым была Клара — у гонар Клары Цэткін. Трэцюю назваў Святланай. Гэткае імя мела Сталінава дачка. Мяне ён назваў Сталінаю. Я нарадзілася ў 1940 годзе.

То як мне жылося з такім гучным імем? А ўсяляк было… Пакуль была малая і было ціха, дык і нічога. Ганарылася: імя Сталіна нашу. А як пачалася вайна, затрывожылася: за такое імя мяне немцы могуць пазбавіць жыцця першай. Пасля вайны трохі супакоілася. А тут смерць Сталіна. Усе галасілі па ім, самоцiліся. Галасіла і я. А чаго? Пачалі гаварыць, што пасля смерці Сталіна

можа новая вайна пачацца. Мяне ж, калі гэта толькі так, думалася, першай расстраляюць, вынішчаць. А неўзабаве пачалі культ Сталіна развенчваць: «Сталін такі, Сталін гэткі». І я пачала саромецца свайго імя, таіцца. Калі знаёмілася з кім, называла сябе Галінай. Балазе, імя Сталіна меладыйнае з імем Галіна, трохі сугучнае з ім.

— А ці не было ў вас жадання афіцыйна, юрыдычна змяніць сваё імя? — пацікавіўся ў сваёй субяседніцы.

— А навошта?! Гэтае імя — адзінае, што засталося ў мяне як памяць пра тату, які загінуў у першыя дні вайны. Мама казала, што хто называў сваіх дзяцей у гонар правадыра, мелі ад яго прэміі. Але ён быў не самы першы. Гэтае імя ўжо было дадзена другой дзяўчынцы. Так што імя такое было не адзінае. Кажуць: абранае аднойчы імя вызначае лёс і долю яго носьбіта. І гэта ў нейкай ступені, мусіць, такі праўда.

## СКЛЕРОЗНІКІ

Сустрэліся неяк раз трое. Пытаюцца адзін у аднаго, як здароўе як жывецца.

— А нічога, — кажа адзін. — Жыць можна. Адно толькі вельмі дапякае склероз… Паслала неяк раз мая гаспадынька нечага купіць. Прыйшоў я ў тую краму, а чаго — забыўся на нет. Пахадзіў па той краме трохі, усе вітрыны абгледзеў і так не згадаў, што мусіў купіць. Але от на вока трапіла вітрына з гарэлкай, дык я пляшку гарэлкі купіў і дадому пашыбаваў. А жоначка пытаецца: «Хіба я цябе па гэта пасылала?» Я толькі рукамі вінавата развёў…

— Гэта што, — кажа другі. — От у мяне было… Пазнаёміўся неяк раз з адной харошанькай паненкай. Сустрэліся раз, другі. На трэці раз яна запрасіла да

сябе. Сядзімо ў яе, гарбатку п'ем, папіваем… Тэлевізар глядзім, гамонім. Гляджу на гадзіннік, а час ужо позні. Пачаў дадому збірацца. Іду гэтак і думаю: «А чаго гэта я да яе хадзіў?»

— І твой склероз яшчэ нішто, — кажа трэці. — А от паслухай, што ў мяне было. Пайшоў у туалет, усеўся на ракавіну, а штаны забыўся скінуць. Ну і ў штаны наклаў. Во гэта склероз дык склероз!

## БУДЗЕ ЯК ТАДЫ

Інкасатар з раёна прывёз у сталіцу касу, каб здаць яе ў банк. Але на мінскім вакзале нарваўся на якіхсьці прайдзісветаў. Яны пранюхалі, што ў таго інкасатара з сабою грошы. Праўдамі-няпраўдамі яны таго інкасатара абрабавалі. Але інкасатар не разгубіўся:

— Хлопцы, — кажа ён, — аддайце грошы, а то будзе як тады…

Але тыя як не чуюць. Інкасатар неадчэпна ідзе за імі і зноў настойліва паўтарае:

— Хлопцы, аддайце грошы, а то будзе як тады!..

Прайдзісветаў надта заінтрыгавала гэтае «будзе як тады». Вельмі ж ім захацелася пачуць, як жа яно было тады.

— Добра, — сказалі яны. — Аддамо табе твае грошы. Толькі скажы, як яно было тады…

— А тады было так: грошы забралі і не аддалі…

## ЯКІ ЧАС — ТАКАЯ І НАВУКА

У электрычцы едзе маці з хлопчыкам. Каб з карысцю скарыстаць час, узялася вучыць дзіця літарам: мабыць, дома на гэта ў яе не стае часу. Вось паказала адну, другую літару; хлопчык назваў іх: а, бэ, вэ, гэ, дэ. А на літары «з» забуксаваў. Глядзіць на яе і ніяк не можа згадаць назву. Тады маці давай яму памагаць:

— Ну, паглядзі, на што яна падобна, гэтая літара?

Мінае хвіліна, другая.

Хлопчык глядзеў, глядзеў, так і не змог прыгадаць рэч, падобную да літары «з». А маці настойвала:

— Ну, вось, скажам, міліцыя што накідвае разбойнікам на рукі, калі тыя вельмі разбушуюцца?

— А-а-а!… Наручнікі.

— Ну от і літара «з» хіба не нагадвае незашчэпленыя наручнікі?

— Нагадвае.

— То так і запомні: «з» — гэта наручнікі, кайданы для рук.

## ЧЭРАП

Бабулька ў паліклініцы на прыёме ў доктара. Доктар ёй кажа:

— Здаецца, усё. Можаце ісці дадому.

— Дзякуй, дзякуй, даражэнькі, каб вы здаровенькія былі.

Раптам дзверы ў кабінеце расчыняюцца і ўбягае медсястра:

— Пачакайце, бабулька, мы вам забыліся чэрап зняць!

Бабулька анямела ад здзіўлення, а потым замахала рукамі:

— Да вы што?! Пад старасць гадоў ды чэрап здымаць! Лепш я памру ці хворай застануся, чым гэта рабіць. Як я без чэрапа жыць буду?

— Выбачайце, бабуля, — спахапілася медсястра, — я не так сказала. Гэта мы збіраліся прасвятліць вам галаўныя сасуды.

— Дык так бы і сказалі, а то «чэрап зняць»…

## ЛЮБАЯ ВАДКАСЦЬ

Чалавеку забалелі ныркі. Ён пайшоў да доктара-ўролага. Доктар выслухаў яго і сказаў, каб той схадзіў і праверыўся на ізатопах, але перад гэтым за гадзіну выпіў дзве шклянкі любой вадкасці. Той так і зрабіў. Праз некаторы час прыходзіць на тыя ізатопы. Прыходзіць і хістаецца. Лабарантка здзівілася:

— Вы ці не п'яны?!

— А што? Мне доктар сказаў, каб перад праверкай нырак я выпіў дзве шклянкі любой вадкасці. Дык от я і выпіў…

## ХТО ЗА ШТО МЯНЕ ЛЮБІЦЬ

Пра гэта адна бабка мне распавядала.

…Жыла яна ў вёсцы, а дзеці ў горадзе. Жыла адна, колькі могі была. Але з кожным годам слабела, усё больш нямоглай рабілася, сілачкі яе пакідалі. Не было тае жвавасці, рухавасці. Пачалі дзеці ў горад гукаць: «Прадавай, мама, хатку і перабірайся да нас». Але лёгка сказаць «прадавай хатку». Хатка — яна ж як родная матка. Тут і дзяцей гадавала, і не адну радасць спазнала. І сама сабе гаспадыня. Нялёгка з усім расстацца. Але мусіць! Скрозь слёзы збыла яна тую сваю

хатку і наважылася з дачкой сваёй трохі пажыць. І от едзе яна і ўсё думае, як яна ў тым горадзе прыжывецца. Ці знойдзецца там для яе куток, дзе яна нікому замінаць не будзе. А гэта для яе вельмі важна! Дужа ж ёй хацелася жыць з зяцевай сям'ёй у ладзе, згодзе; нікому і ні ў чым не быць дакукаю. Самыя розныя думкі ёй лезлі ў галаву, пакуль ехала. Няйначай нячысцік разам з ёй ехаў.

І от нарэшце прыязджае яна. Дачушка сустрэла яе. Распытваецца, як ды што. Ці прадала хатку? Колькі за яе ўзяла? І тут матулю раптам як нячысцік спакусіў:

— Пакуль ехала да цябе, донька, якісь гіцаль у вагоне ўсе грошыкі, выручаныя за хатку, у мяне скраў. Так што прыехала я да цябе без капейкі, адно тая пенсія будзе…

Спахмурнела дачушка. Нічога не сказала. Нейкі халадок прабегся паміж імі. Гэтак яны і жывуць нейкі час, як нехта нешта ў іх украў, нечага ім недадаў. І сварыцца не сварацца, але і не надта шчыруюць. Дачулася пра гэта сынава нявестка, гукае матулю да сябе пажыць: «Пераходзь, мама, да нас. У крыўду не дамо, і ты не надта ўбівайся па страце. У нас ты будзеш мець усё, чым самі багатыя».

Перайшла матуля да нявесткі. І праўда, якаясь цеплыня і павага запанавала да матулі ў хаце. Дзяліліся з ёй усім, чым самі былі багатыя… Шчадротай і шчырасцю.

Прайшло колькі часу, і аднаго разу матуля гукае сына і нявестку дый кажа ім:

— Дзеці мае! Калі я прыехала да вас, я трохі няпраўду сказала: ніхто тых маіх грошыкаў за хатку ў мяне не краў. Я проста хацела паглядзець, за што вы мяне любіце, паважаеце, шануеце: за тое, што я ваша матуля, ці за мае грошыкі. На вялікі жаль, мая родная дачушка не вытрымала майго выпрабавання. Але гэтую спакусу

вытрымалі вы. То вось усе мае грошыкі за хатку я аддаю вам. Распараджайцеся імі, як хочаце! І жывіце заўсёды ў ладзе з Богам!

## БЕЛАРУСКАЯ МІЛАСЭРНАСЦЬ

Мо не паверыце, але так было. З бабкай Настай я хадзіла на набажэнства. Хадзілі ў розныя храмы, у сабор Пятра і Паўла. У нашай Слепні свайго храма яшчэ не было.

Неяк аднаго разу вярталіся з таго набажэнства і баба Наста кажа:

— Паслухай, Ніна, што з мною нядаўна было. Іду я неяк ля нашага лесу — ён Пасека завецца. Гэта праз дарогу ля так званых Усходніх могілак. А там хлапчукі на ўскрайку лесу нешта нагамі ганяюць. Прыгледзелася: чалавечы чэрап. Я на тых хлапчукоў: «Што вы, гіцалі, робіце?!» — «А гэта фашыстоўскі чэрап», — кажуць яны. Я не стрывала і запярэчыла: «Гэта яшчэ невядома, фашыстоўскі ён ці не. Гэта раз. А вось у вас якраз праява фашыстоўская… А вы ж людзі! Грэх гуляцца — пінаць нагамі чалавечыя парэшткі». Забрала ад іх той чарапок і закапала яго пры маладым дрэўцы. А назаўтра мне сніцца той немчык і дзякуе, што ягоную галоўку зямліцы перадала: «Данке, данке!» І ўсё кланяецца мне. Правую руку да сэрца цісне.

Пра гэты свой сон бабка Наста неяк раз распавяла сваім царкоўным пеўчым сяброўкам, прыяцелькам, і яны наважылі справіць па ім паніхіду. Сабраліся неяк разам ля чарапка таго немчыка і праспявалі колькі духоўных праваслаўных псалмоў.

Праз нейкі час зноў сніцца ёй той немчык. Незадаволены такі, нешта на бабку Насту гыркае: гыр-гыр! А чаго гыркае? Немчык той быў іншай веры.

# БОГ ДАПАМОГ

Хто пра што, а спадарыня Пратасеня, завуць яе Клара, на чарговым вечаровым сейміку ля фантана са мною пра Бога загаварыла: пацікавілася, ці прызнаю я Бога, яго ўсемагутнасць? Адчуваючы моцную яе прыхільнасць да Усявышняга, я гатовы быў выслухаць яе довады на Божае існаванне. Яна прыгадвала самыя розныя пастулаты з Божага пісання, з Бібліі, з жыццёвай практыкі.

Прыгадала 1942 год. Вайна. Іхняя сям'я з Старобіна пераехала ў невялічкую, за сем кіламетраў ад Старобіна, ціхую вёсачку Дуб’е. Тут, меркавалі, будзе больш спакойна. Але які можа быць спакой, калі ідзе вайна, акупацыя? На Старобіншчыне ўжо распачалася партызаншчына.

— Не давалі спакою акупантам Бародзічавы хлопцы. То надумалі немцы разам з паліцманамі неяк выкурыць таго Бародзіча з лесу ці хоць выйсці на яго след. І што яны робяць? Забіраюць Бародзічаву жонку. Распранаюць яе, як маці нарадзіла. Голую яе абстаўляюць аўчаркамі з усіх бакоў. Калі хоць адна аўчарка гаўкне на яе ці ашчэрыцца, тады, значыцца, вінаватая і пачнуць допыты. Але, як ні дзіўна, ні адна аўчарка на яе не рыкнула, не ашчэрылася. Яна адно ручачкі згарнула, і паліцыянты яе адпусцілі: хай ідзе! Мо ў лес пабяжыць, то яны тады за ёй нацейкі: мо так на Бародзічаў след выйдуць! Аж як толькі яна выйшла ад паліцманаў, натрапіла на маю маму: «Цётачка, схавайце мяне, а то зараз за мною паліцыянты хвост пусцяць!» Мама тут жа прапанавала ёй схавацца на нашым гарышчы, а лесвіцу за сабой усцягнуць. Толькі яна паспела гэта зрабіць, паліцыянты тут як тут: «Ці не бачыла, — пытаюцца ў мамы, — каб тут якая жанчына бегла?» А маме хлусіць грэх, дык яна агулам кажа: «Бегла… і не адна…

і дзеці тут якіясь беглі…» Гэтак яна і адвяла паліцманаў ад Бародзічавай жонкі. А хто ёй памог? Бог! Толькі ён, адзіны і ўсемагутны!

## Скваапнасць бабу падвяла

Усюды, дзе б я ні ехаў, пры нагодзе прашу сваіх спадарожнікаў распавесці мне цікавую гісторыйку ці якоесь цікавае здарэнне з іх жыцця. От і гэтым разам пад час вандроўкі па Уздзеншчыне мне напаткалася Наталля Вайцяхоўская з вёскі Возера. Яна мне распавяла гісторыйку пра цудадзейную лясную крынічку, з якой калі хто вады нап'ецца, зноўку стаецца малады. Я папрасіў Наталлю распавесці мне больш падрабязна пра тую крынічку, на што Наталля сказала, што ў яе пра тую крыніцу ёсць вершаванае паданне, і ўпісала яго ў мой нататнік. Прачытаў я тое паданне, і яно падалося мне такім дасціпным, што захацелася, каб тую асалоду, якую атрымаў я ад гэтага народнага расповеду, атрымалі і вы. То чытайма.

Штурмавала баба дзеда:
— У бальніцу не паеду!
Хоць хвароб мо дваццаць ёсць,
Ты вярні мне маладосць!

Ў лесе, кажуць, ёсць крыніца:
Як вады з яе напіцца,
Каб забыцца на гады,
Зноўку станеш маладым.

Не ляжы, стары, на печы,
Хопіць грэць свае там плечы,
Лепш крыніцу йдзі шукай,
Знойдзеш — дык мяне гукай!

З цудадзейнае крыніцы
Я хачу вады напіцца!

Дзядок ведаў жончын нораў,
Нацярпеўся з яго гора!

Таму злез ціхутка з печы
І паплёўся ў лес старэча.
Хоць не вельмі жонцы верыў,
Але моц вады праверыў,

Як крынічку адшукаў —
Маладым умомант стаў!
Уздыхнулі лёгка грудзі,
Хоць не верыў, што цуд будзе.

Сталі лёгка несці ногі —
Больш не страшны ім дарогі.
І не дзед ідзе дахаты —
Прыгажун малайцаваты!

Баба ўбачыла — умлела,
Аж на зэдлічак прысела:
— Дзе, скажы, мілок, крыніца?
Трэба ж мне амаладзіцца!
«Мілок» бабцы растлумачыў,
Дзе шукаць і ёй удачы.

Баба ў лес пашыбавала,
Там крынічку адшукала…
Усё піла з яе, піла,
Ніяк напіцца не магла!

…Маладому ж не цярпіцца,
Каб на жонку падзівіцца,
Ён спяшае да крыніцы
З цудадзейнае вадзіцай.

Думаў з мілай маладзіцай
Зноўку шчасцем наталіцца.

Ды убачыў ён… дзіцятка:
Жонка стала немаўляткам!

Сквапнасць бабу падвяла:
Жывой вады перапіла.

І чароўную вадзіцу
З цудадзейнае крыніцы
Трэба ў меру, людцы, піць,
Каб, што маеш, не згубіць.

## ЖАНОЧАЯ ХІТРАСЦЬ

От вы скардзіцеся, што ваш чалавек часта бывае п'яны, буяніць дома, а вы не можаце яму ніякай даць рады. Прызнацца, дык я вам не вельмі веру. Вы альбо дрэнна ведаеце мужчын, альбо не маеце жаноцкай хітрасці. Вы павінны ведаць, што сярод мужчын ёсць нямала прытворцаў. Гэткія вып'юць на капейку, а прыкінуцца на рубель. От і мой такі быў. Хапіла я з ім горачка, пакуль не разгадала. А як разгадала?

Прыходзіць ён аднаго разу дадому пазней як звычайна. Толькі пераступіў парог і адразу брык на падлогу.

Ляжыць і не варушыцца. Чакае, што я, як і раней, кінуся да яго, пацягну на тапчан спаць. А я як сядзела, так і сяджу. Сяджу і пасміхаюся. Убачыў ён гэта і давай, як цапамі, малаціць нагамі, ды так моцна, што аж посуд у століку брынчыць-звініць. Проста шалее чалавек. Глядзела я, глядзела, ды не вытрымала:

— Як табе не сорамна, — кажу, — бацька ты дзяціны. Хоць бы гасцей уважыў.

Як пачуў ён слова «гасцей», дык умомант падхапіўся на ногі. Куды і п'янка тая дзелася. Стаіць і вачамі лыпае, не ведае, што рабіць. Перад чужымі людзьмі не тое,

што перад жонкай. На мяне глядзіць; маўляў, выручай! А я яму: бушуй, бушуй. Хай людзі ведаюць, што ты за птушка.

Але ён у мяне хітры ліс. Пачаў сляды замятаць.

— Ты, — кажа, — Валя, прабач, што я гэтак шумеў. Жывот мяне заразаў. Можа, язва якая ці што…

І такі добранькі стаў. Абдымае, цалавацца лезе. Пра дзяцей пытаецца. Футрачка белае абяцае купіць. Ой, чаго ён мне толькі не нагаварыў! І ўсё, мілая, каб госці чаго дрэннага не падумалі пра яго.

Што праўда, ніякіх гасцей у нас не было. Проста суседка з сваёй малой начавала — дома яна падлогу нафарбавала…

А раніцай… Што раніцай было!.. Галубка ты мая. Сплю я яшчэ, а скрозь сон чую: нехта на кухні туды-сюды тупае, ходзіць, пасудай бразгае. Зірнула — Андрэй мой. Снеданне гатуе. Гэтага ніколі не было. Ляжу я, як пані, чакаю, калі запросіць да стала. Нарэшце дачакалася. Кліча, ды так ласкава:

— Валюша, уставай снедаць.

— Зараз, Андрэйка, — кажу я. — Вось толькі апрануся. А ты гасцей пабудзі.

А сама не варушуся. Слухаю, што далей будзе. І раптам чую:

— Каб вы пагарэлі с сваімі гасцямі! Толькі падумаць!.. Бабы вакол пальца абвялі…

Пасля таго даў слова, што ніколі дадому не прыйдзе не тое што п’яны, але і нападпітку. І што вы, думаеце? Стрымаў. Толькі не падумайце, што зусім ад гарэлкі адрокся. Але вось пра буянства і гаварыць няма чаго — як рукой зняло.

Дык от і вы, галубка, прыгледзьцеся лепей: часам ці не з такіх прытворцаў і ваш.

## Мне ўсялякі хлеб смачны

Адна досыць сталага веку кушлянка неяк патрапіла ў Мінск. Зайшла па дарозе ў хлебную краму. А там хлеба featured рознага — вочы разбягаюцца: боханы круглыя, прадаўгаватыя, цаглінкамі…

Ходзяць мінчукі і хлеб той пальцамі тыкаюць. Гэта вельмі абурыла кушлянку. Яна-то ведае, як той хлеб даецца. Яе вучылі пашане да хлеба, да кожнае крышкі. А тут яго пальцамі тыкаюць. А хлеб жа самае святое, што толькі ёсць на свеце.

Не стрывала кушлянка дый пытаецца ў адной маладзіцы:

— Што вы гэты хлеб поркаеце? Ходзіце і поркаеце…

— Ды гляджу, каб свежы быў, мяккі… — кажа тая.

— А вы сядзьце на яго, пад зад пакладзіце, пасядзіце трохі на ім, то тады ён будзе вам і мяккі, і цёплы, — дасціпна параіла кушлянка і з годнасцю дадала: — Як па мне, то ўсялякі хлеб смачны!

## Пакута

Гэта было пад той час, калі беларуская мова была абвешчана адзінай дзяржаўнаю. Беларускую мову тады ўводзілі спакваля ўсюды. У гандлі таксама. І от адна шчырая прадавачка на пакеціку з мукой прычапіла цэтлік: «Пакута. 1 кг. 180 р.»

Цэтлік гэты з такім надпісам вельмі ўразіў усіх пакупнікоў. Дзівяцца яны: што гэта за пакута яшчэ такая?

А прадавачка тлумачыць:

— Пакута — гэта па-беларуску мука… Я і слоўнік глядзела. Там гэтак напісана: «Мука — пакута». Вось, паглядзіце.

Разгарнула слоўнік. І праўда, там так напісана: «Мука — пакута». Аднаго толькі не заўважыла прадавачка: гачкі над словам мука. А з гачкаю тое слова чыталася не мука́, а му́ка. Адсюль і пакута.

## КУПАВЫ НЯМА, А КУПАЛА ЁСЦЬ!

Распавёў пра цікавы выпадак мастак Мікола Купава.

— Наш экзархат адзначаў пяцісотгоддзе Францішка Скарыны. Мне захацелася патрапіць на гэтую імпрэзу. Пра сваё жаданне я патэлефанаваў у канцылярыю экзархата. Мяне там уважліва выслухалі, запісалі маё прозвішча, сказалі: «Прыходзьце! Мы вам выпішам запрашэнне…» І от я прыходжу ў вызначаны дзень, заходжу ў канцылярыю экзархата і прашу сваё запрашэнне. «Ваша прозвішча?» — пытаюцца. «Купава», — кажу. Сакратарка пачала праглядаць свае запісы. Доўга перакідвала паперкі, перабірала іх, тасавала, нарэшце кажа: «Няма Купавы…» — «Як няма?! Я ж вам тэлефанаваў, і вы мяне запэўнілі, што ўсё будзе о'кэй!» Сакратарка яшчэ раз унурылася ў свае запісы нарэшце запыніла ўвагу на адным з іх: «Купавы няма… А вось Купала ёсць!»

## ЛІШНІ МАБІЛЬНІК

А ці бывае такі? А от слухайце!

…Вясною, у канцы красавіка ці напачатку траўня ТБШ — Таварыства беларускай школы — зладзіла паездку на радзіму Якуба Коласа. Нагодаю паездкі была 125-я гадавіна з дня народзінаў народнага песняра і сотая гадавіна з часу першага нелегальнага з'езда беларускіх настаўнікаў. Люду сабралася ладна. Пера-

важна гэта былі настаўнікі беларускіх школаў і ліцэяў. Быў з намі і малодшы Коласаў сын Міхась. А як жа без яго?! Наведаўшы Смольню і Мікалаеўшчыну, экскурсанты накіраваліся ў Прыстаньку — маляўнічы куточак коласавых мясцінаў.

Менавіта ў Прыстаньцы ў 1907 годзе адбыўся першы нелегальны з'езд беларускіх настаўнікаў. Апякун наш ні то каб нашай вандроўцы надаць рамантычна-таямнічую аўру, ні то з яшчэ якіх меркаванняў на пад'ездзе да Прыстанькі прапанаваў усім, у каго былі мабільнікі, здаць іх. Ён прайшоўся з цэлафанавай торбачкай па аўтобусным праходзе і патрабавальна патрусіў ёй перад кожным, каб усе скідвалі свае мабілы. І от нарэшце ўсе мабілы здадзены. Гадзіны тры-чатыры мы спазнавалі Прыстаньку, цешыліся яе маляўнічасцю, згадвалі коласаўскі з'езд і яго вынікі. Абмяркоўвалі таксама сённяшні стан беларускіх школ. Калі ўсе зноў нарэшце сабраліся ў аўтобусе і пачалі вяртаць тыя мабільнікі, нечакана для ўсіх адзін стаўся лішні. Ніхто не прызнаваўся, чый. Тады апякун нашай вандроўкі прапанаваў яго мне, але я катэгарычна адмовіўся. І не толькі таму, што ён не мой. Проста не хацеў мець праз яго самыя розныя турботы: і плата дадатковая, дый каб не згубіць. І нечаканыя званкі, і сполахі праз яго… Не і не! Мабільнік не для мяне! Адзінае ён карысны ў лесе, калі раптам заблудзіш. А так чалавеку ад мабільніка, як мне падаецца, адна марока. Але гэтыя мае развагі пра мабільнік між іншым.

Як так сталася, што адзін мабільнік аказаўся лішні? Пра гэта шмат хто з нас ламаў галаву па дарозе дадому. Пасля прыгадалася: у Прыстаньку хто-кольвек прыехаў на сваіх машынах, і яны, вяртаючыся дахаты, каго-кольвек прыхапілі з тых, хто прыехаў на аўтобусе. Сярод іх быў і ўладальнік мабільніка. А пра тое, што ён здаў яго у аўтобусе апекуну вандроўкі, забыўся.

# Як я мяса купляў

Купец з мяне, скажу, неважнецкі. Я спрактыкаваны купляць толькі хлеб ды малако. Ва ўсім жа іншым я — недасведчаны пакупнік, цемра. Але вось аднаго разу жонка паслала мяне купіць кавалачак мяса, якую костачку, каб крупнік зварыць. Пайшоў. Падышоў да мяснога прылаўка. Зірнуў… Ну што з таго мяса возьмеш? Мяса — яно і ёсць мяса, не люстэрка купляць прыйшоў. Па мне які кавалачак ні вазьмі, дык згодзіцца на той крупнік. Прымасціўся да чаргі. А чарга тая была невялікая, чалавекі два перада мной: мужчынка якісь, а за ім кабетка пранырлівая. Відаць, і дасужая. Тая доўга перабірала, пакуль выбірала той шматок, які ёй спадабаўся, падаўся ёй лепшы. Узяла яна яго і пачала на століку парадкаваць ужо ў сваёй шабеце. А прадаўшчыца ўжо ў мяне пытаецца, які мне кавалачак падаць. Не ведаю, якія мяне чэрці крутанулі, але я кажу:

— А мне дайце вось той самы кавалачак, які гэтая жанчынка забракавала!

Вы б паглядзелі на тую пакупніцу: рука замерла, перастала парадкаваць. Глядзіць на мяне, а ў вачах спалох, збянтэжанасць. Што гэта ён за такі? Што ён за сакрэты ведае? У чым яна прагадала?

А я зрабіў сваю пакупку ды прэч з крамы. Але добра ведаю: хваляванні той пакупніцы тым не скончыліся. Пакуль яна варыла тое мяса, гатавала, усё думала пра мяне, пра мае словы. Дый не толькі тады, але і кожны раз згадвала мяне, такога дасведчанага, калі прыходзіла купляць мяса.

## ШТРАФНІЦА

Адна бабулька панадзілася кожны дзень ездзіць на лецішча, балазе тое лецішча было недалёка ад яе дому. Увечары таго ж дня вярталася назад дахаты. Але квіток брала толькі ў адзін бок. Нехта ўвёў ёй у вушы, што на гэты квіток можна ездзіць цэлы дзень. Але аднаго разу натрапіла тая бабулька на рэвізораў.

— Гэты квіток у адзін бок, — кажуць яны. — А дзе ў другі?

А бабулька на гэта ім:

— Але ж гэта квіток сённяшняга дня, на сёння?

— Сённяшняга-то сённяшняга, — пагаджаюцца рэвізоры-кантралёры. — Але на ім павінны быць дзве стрэлачкі, а ў вас адна… Трэба плаціць штраф!

— Які яшчэ штраф? За што?

— За безбілетны праезд.

— Дык я і штраф той ужо даўно заплаціла… Была ў мяне кніжка, а на той кніжцы колькі тысячаў. На чорны дзень трымала. На хатку сабе, на дамавіну. То дзе тыя мае грошыкі? За ўсё, за ўсё, мае даражэнькія, ўжо даўно заплочана і пераплочана. І ваш штраф таксама.

## ЗДАМ НА ШКІЛЕТ

У Купалавых Бараўцах, першым Купалавым літаратурным гняздзе, дзе сто гадоў таму напісаўся шэдэўр — славутая філасофская паэма «Адвечная песня», — аднойчы пачуў:

— Баба, а баба! Сціхні, а то на шкілет здам!

Рэпліка гэтая прагучала як стрэл у глыбокай цішы. Нябожчыкаў на Беларусі, як вядома, на вечны спакой перадаюць зямельцы. А тут — на шкілет здам! Пачаў цікавіцца, што тут і да чаго. І вось што пачуў.

…У аднаго бараўскога хутараніна — Кур’яна — вельмі хварэла жонка. Ніякія ёй лекі не памагалі. Высахла на арэх. Дзяцей у іх не было.

Жоначка яго паціху згасла, як тая свечачка. Памерла. А жылі яны бедна. Не было за што пахаваць. Укруціў муж яе ў посцілку, на тачку ды да Шапіры ў Мінск завёз. А там з яе шкілет зрабілі.

З тае пары і пайшло: як толькі чаго гаспадар разгневаецца на сваю гаспадыньку, дык у таго нязмушана вырвецца:

— Ану сціхні, а то на шкілет здам!

## НЕЧАКАНЫ ГАНАРАР, або ЗАКЛАДКІ Ў КНІЖАЧЦЫ

У 1994 годзе мне пашчасціла выдаць невялічкую кніжачку «Тут бачу свой край» пра першае Купалава літаратурнае гняздо — Бараўцы. Спрыяла гэтую кніжачку сваімі расповядамі мне пісаць і жыхарка Бараўцоў Марыя Баравец. Сваю ўдзячнасць за гэта спрыянне я выказаў у сваёй кніжачцы. Праз шмат гадоў мне закарцела зноў сустрэцца з спадарыняй Марыяй. І от адным летам я зноў завітаў у Бараўцы. І першае, чым я пацікавіўся — ці ахвяраваў спадарыні Марыі сваю кніжачку, а то ж так часта бывае: як трэба, дык лістам сцелемся. А пасля, дамогшыся свайго, і аддзячыць забываешся.

— Не, не! — запярэчыла катэгарычна спадарыня. — Кніжачку сваю вы мне прыслалі і падпісалі!

— Ну, калі так, то і добра, — сказаў я ўсцешана. — Але буду зусім сябе спакойна пачуваць, калі ўбачу саму кніжачку.

Спадарыня Марыя нырнула ў хату і хуценька вярнулася, працягнула маю блакітную кніжачку. У ёй ляжалі дзве

закладачкі. Што ж спадарыню Марыю заінтрыгавала на закладзеных старонках? Ці мо я што не тое напісаў, не так сказаў? Пытаюся ў яе пра гэта.

— Дзе вы бачыце тыя закладкі?

— А во гэтыя, — паказваю дзве каляровыя паперкі.

— Дык гэта ж не закладкі, — кажа яна. — Гэта еўра!

І распавяла, што ў сорак трэцім яна разам з сястрою і іншай баравецкай моладдзю былі вывезены ў германскае рабства. І от зусім нядаўна за свае пакуты яна атрымала з Германіі кампенсацыю.

— То гэтыя еўра, якія вы палічылі за закладкі, — гэта мой вам гасцінец за цікавую кніжачку пра нашы Бараўцы і Янку Купалу.

Я пачаў аднеквацца. Але гаспадыня настойвала:

— Бярыце, бярыце! У мяне яшчэ ёсць.

— Добра! — сказаў я. — Хай будзе так! Я гэты ваш гасцінец не прап’ю і на цыгарэтах не прасмалю. Я іх на сваю новую кніжачку пушчу. Апошнім часам даводзіцца выдаваць сваім коштам.



Выданню народных апавяданняў, як і даўней, мне фінансава паспрыяў найперш люд паспаліты. З яго я хачу згадаць нашага знанага палітыка Пятра Краўчанку, журналіста Мікалая Тоўсціка, інжынера-будаўніка Паўла Русецкага, Аксану і Мікалая Чылікіных, Мечыслава Папкоўскага, Сержука Дымкова, Алега Дзьячкова, сяброў з Магілёўскай рады ТБМ, архітэктара Алену Асмалоўскую, таксама з Магілёва, Розу Казлоўскую і шмат-шмат каго іншых. Удзячны буду ўсім, хто фінансава адгукнецца на выданне наступных маіх кніжачак. А гэта можа быць ці «Бласлаўлёныя Кушляны» пра нашага нацыянальнага празорцу Францішка Багушэвіча з нагоды 170-й гадавіны з дня яго народзінаў, ці пра знанага колісь краязнаўцу і гісторыка Андрэя Снітку, буйнога земляўласніка з маёнтка Карлзбэрг з-пад Радашкавічаў, швагру Аляксандра Уласава, першага рэдактара «Нашай нівы»… Хто можа — спрыяйце нашаму нацыянальнаму кнігавыданню, каб згаданыя мае кніжачкі ўбачылі свет.

Шчыра,
*аўтар.*

## ЗМЕСТ

На першай старонцы вокладкі скарыстаны фотаздымак знанага ў Беларусі фотамаэстры Яўгена Пясецкага — «У. Содаль у сваім творчым куточку асэнсоўвае фальклорныя запісы» (2001).

На апошняй старонцы вокладкі фотаздымак У. Содаля, зроблены Элай Орлінай-Гарэцкай у 2005 годзе падчас якойсьці асветніцкай імпрэзы.

---

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**НАРОДНЫЯ АПАВЯДАННІ**

у запісах і апрацоўцы Ладымера Содаля

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Валянціна Аскерка*
Набор і вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Валянціна Аскерка*

Падпісана да друку 6.02.2009. Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Гарнітура Arial. Ум. друк. арк. 3,78.
Ул.-выд. арк. 2,16. Наклад 500 ас. Зак. 59.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія ЛВ № 02330/0131712 ад 12.05.06.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 204-86-97, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні
ПУП «Ходр» ГА «БелТІЗ».
ЛП № 02330/0056661 ад 29.03.04.
Вул. Вызвалення, 9, 220004, Мінск.